11 жніўня 2017 | № 29 (543)

Новы час

novychas.by

ISSN 2218-2144

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

Размаўляйце па-славянску! стар. 9



# Добра не будзе

## Улада стварае падставы для «гарачай восені»



Сяргей ПУЛЬША

Як вядома, праваахоўныя органы правялі ператрусы ў офісах двух незалежных прафсаюзаў — Беларускага незалежнага прафсаюза (БНП) у Салігорску і радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП) у Мінску. Пад раздачу патрапілі кіраўнік РЭП Генадзь Фядыніч і бухгалтар прафсаюза Ігар Комлік.

Паводле Камітэта дзяржкантролю, Фядыніч і Комлік адкрылі ў замежных банках рахункі, з якіх не сплачвалі падаткі. Супраць іх распачата крымінальная справа па нясплаце падаткаў у асабліва буйным памеры.

Фядыніч быў адпушчаны пад падпіску аб нявыездзе. Комлік застаецца за кратамі. Іронія сітуацыі ў тым, што Ігара Комліка «трасуць» ужо другі раз за квартал. Ён — бацька фігуранта «справы патрыётаў» Андрэя Комлік-Ямаціна, і да яго ўжо прыходзілі па справе сына.

Цалкам зразумела, чаму ўлады зацікавіліся незалежнымі прафсаюзамі. Менавіта яны найбольш актывізаваліся падчас вясновых «антыдармаедскіх пратэстаў». Прафсаюзныя дзеячы і юрысты актыўна аказвалі прававую, інфармацыйную і іншую падтрымку ў абскарджванні як самога падатку, так і прадстаўлялі ў судах фігурантаў акцый пратэсту.

У выніку пра незалежныя прафсаюзы, якія былі «ў ценю» ці не дзясяцігоддзе, загаварылі. І тое, што пра іх загаварылі, напэўна, нагадала ўладам пачатак 1990-х, калі менавіта працоўныя пратэсты сталі штуршком для скону СССР. Улічваючы, што эканоміка (дый палітыка) у Беларусі з'яўляецца «рэфарматам СССР», гістарычныя паралелі правесці няцяжка.

Пэўныя высновы з акцый пратэсту ўлады ўсё ж зрабілі, і таму пачалі зачыстку пратэстнага поля загадзя. Ужо цяпер адказныя ўрадавыя чыноўнікі кажуць нам: «Усё добра будзе». Прынамсі, пра гэта заявіў міністра эканомікі Уладзімір Зіноўскі ў інтэрв'ю дзяржаўнаму тэлебачанню. Маўляў, будзе добры ўраджай, і не трэба чакаць росту коштаў.

У той жа час Аляксандр Лукашэнка паведаміў, што дапрацаваная версія дэкрэту №3 павінна з'явіцца не пазней за кастрычнік. Гэтая заява відавочна дысануе з заявамі Зіноўскага. Калі ў нас «усё добра будзе», навошта нам гэты дакумент наогул?

Словы беларускага правадыра практычна ніколі не аспрэчваюцца выканаўцамі яго пажаданняў. Ніхто не сказаў Аляксандру Рыгоравічу, што 1 кастрычніка — гэта менавіта той час, калі людзі разбяруцца з паслялетнімі клопатамі і верасьнёўскімі зборамі дзяцей у школу, загатуюць на зіму закаткі, збяруць бульбу і зазірнуць у пусты гаманец. Яны ўзгадаюць пра «ўсім па пяцьсот» і зразумела, каго будуць вінаваціць. А тут зноў дэкрэт. Новыя пратэсты — цалкам рэальныя.

Ніхто не здагадаўся нават намякнуць кіраўніку дзяржавы, што менавіта на восень ці не адзіны «палітычны» рухавік антыдармаедскіх пратэстаў — Мікола Статкевіч — анансаваў новыя вулічныя акцыі. Хаця пра гэта Статкевіч казаў неаднаразова і ўголас.

Карацей, для рэанімацыі дэкрэту Лукашэнка абраў не самы зручны час — а сілавікі вымушаныя на гэта рэагаваць. Таму ў «прафсаюзнай справе» ёсць шмат паралеляў не толькі са справай Алеся Бяляцкага, які за аналагічную «нясплату падаткаў» адседзеў амаль тры гады, але і са «справай патрыётаў». Тады Лукашэнка спачатку выказаўся пра «лагеры баевікоў пад Асіповічамі», а потым КДБ, каб апраўдаць яго словы, вымушаны быў гэтыя лагеры і гэтых «баевікоў» тэрмінова адшукаць. Цяпер кіраўнік дзяржавы кажа пра «кастрычніцкі дэкрэт», а сілавікі вымушаныя «працаваць на апярэджанне».




> **Зразумела, чаму ўлады зацікавіліся незалежнымі прафсаюзамі. Менавіта яны актывізаваліся падчас вясновых «антыдармаедскіх пратэстаў»**

Але такі сілавы сцэнар даволі дорага абыходзіцца краіне. Бо менавіта пасля брутальнага разгону акцыі 25 сакавіка і «справы патрыётаў» інтэрнэт быў завалены заклікамі да Захаду не даваць Беларусі крэдытаў. Канешне, нельга казаць, што гэтыя заклікі (але не варта адмаўляць, што і яны ў пэўнай ступені таксама) паўплывалі на рашэнне МВФ прыпыніць перамовы з Сінявокай наконт крэдытнай праграмы. Канешне, афіцыйна гэта гучыць як «не дамовіліся наконт тарыфаў ЖКГ», але хто ж з гэтых дыпламатычных перамоўшчыкаў праўду скажа?

А праўда такая, што ў сакавіку кіраўнікоў «беларускага напрамку» фонду прымаў сам Аляксандр Лукашэнка, а раней віцэ-прэм'ер Васіль Мацюшэўскі казаў, што па крэдыце засталося прыняць «палітычнае рашэнне». Вось яно — палітычнае рашэнне — і было прынята.

Чым адгукнецца для краіны «прафсаюзная справа»? Хаця б тым, што напачатку лета Беларусь вырашыла актывізаваць перамовы па ўступленні краіны ў Сусветную гандлёвую арганізацыю. А ў СГА, сярод іншага, уважліва сочаць і за выкананнем правоў прафсаюзаў.

Калі перамовы з СГА праваляцца, як праваліліся перамовы з МВФ, вінаватым, на жаль, апынецца не Камітэт дзяржкантролю, а зноў кіраўнік МЗС Уладзімір Макей. А што яшчэ мы згубім з-за ціску на прафсаюзы — паглядзім пазней.

І самае крыўднае — усё дарма, усё марна. Народны пратэст на тое і народны, што арыштамі лідараў яго не стрымаць. Падаецца, гэты ўрок з вясновых пратэстаў улада таксама павінна была вывучыць. Але пакуль — не дайшло...

# Першая скарга «дармаедаў» у ААН

**Упраўленне Вярхоўнага камісара ААН па правах чалавека (КПЧ ААН) прыняло да разгляду скаргу аднаго з гомельскіх актывістаў вясновых акцый пратэстаў Уладзіміра Кацоры.**

Цяпер ураду Беларусі давядзецца шукаць адказ на пытанне, чаму за ўдзел у мірнай акцыі пратэсту супраць дэкрэта аб «дармаедах» улада пераследавала апанентаў арыштамі і штрафамі, не суразмернымі сярэдняй заработнай плаце ў краіне.

Як паведамляе «Гомельская Вясна», у скарзе, зарэгістраванай у КПЧ ААН за №3002/2017, Уладзімір Кацора распавядае, як разам з іншымі (каля трох тысяч чалавек) прыняў удзел у несанкцыянаваных уладамі вулічным шэсці і мітынгу, што прайшлі ад плошчы Паўстання і па вуліцы Савецкай у Гомелі. «Падчас мірнага сходу, — адзначае ён, удзельнікі пратэставалі супраць прэзідэнцкага дэкрэта №3 «Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрыманства», пасля чаго разышліся без якіх-небудзь здарэнняў».

«Ні ў каго няма сумневаў, што пратэстная акцыя прайшла мірна. Тым не менш, мяне, роўна як і іншых актыўных удзельнікаў, выклікалі ў міліцыю, дзе абвінавацілі ў парушэнні ўсталяванага парадку правядзення масавага мерапрыемства. 12-сутачны адміністратыўны арышт я адбываў у ІЧУ з 17 па 27 сакавіка. У адпаведнасці з унутранай працэдурай, мы запытвалі ў мясцовай улады папярэдні за 15 дзён дазвол на правядзенне акцыі, аднак атрымалі адмову», — падзяліўся вытрымкамі са сваёй скаргі Уладзімір Кацора.

Праваабаронца Леанід Судаленка, які дапамагае грамадзянам адстойваць правы на міжнародным узроўні, падкрэсліў, што за вясновыя акцыі пратэстаў гомельскія актывісты адсядзелі ў ІЧУ больш за 60 сутак, вымушаныя выплачваць буйныя адміністрацыйныя штрафы. Практычна ўсе яны скарысталіся правам на падачу індывідуальных скаргаў у КПЧ ААН.

Нагадаем, 17 сакавіка суддзя суда Цэнтральнага раёна Гомеля Аксана Осіпава адправіла апазіцыянера за краты на 12 сутак. На думку суддзі, мітынг і вулічнае шэсце, якія мелі месца 19 лютага ў Гомелі, з'яўляліся незаконнымі. Да аналагічных высноў па выніку разгляду касацыйнай скаргі прыйшоў і абласны суддзя Алег Харошка, фактычна пакінуўшы без разгляду прэтэнзіі арыштанта аб парушэнні яго правоў на выказванне меркавання і мірны сход.

**spring96.org**

# Шклоў, які ламае стэрэатыпы

Сямён ПЕЧАНКО

**Сёлета мне ўпершыню давялося пабываць у Шклоўскім раёне. Прызнаюся, што да той вандроўкі я меў даволі стэрэатыпнае ўяўленне наконт радзімы Аляксандра Лукашэнкі. У выніку з большасцю стэрэатыпаў давялося развітацца.**

## Мова і георгіеўскія стужкі

На вуліцах Шклова беларускай мовы ці не больш, чым у тым жа Навагрудку. Назвы вуліц прадубляваны на дзвюх дзяржаўных мовах. Па-беларуску аформлены стэнды на сцяне райвыканкама, многія шыльды крамаў.

За два няпоўныя дні, праведзеныя ў Шклоўскім раёне, на вочы мне трапілася ўсяго некалькі аўтамабіляў, упрыгожаных георгіеўскай стужкай. У Заслаўі, як і ў Карэлічах з Белаазёрскам, дзе бываю досыць рэгулярна, колькасць такіх аўто ідзе на дзясяткі, многія кіроўцы чапляюць побач расійскі трыкалор.

## Людзі

Як для журналіста, прыемна здзівілі людзі — адкрытыя, гаваркія. За ўсю паездку ні адзін чалавек не адмовіўся адказаць на пытанні, большасць пры гэтым не асабліва цікавіліся, з кім размаўляюць. Моцны кантраст на фоне вялікіх гарадоў, дзе далёка не кожны мінак спыніцца, каб адказаць на пытанне.

Многія з суразмоўцаў крытыкавалі ўладу, але гаворка ішла пра мясцовых начальнікаў.

Ні адзін з землякоў Лукашэнкі не выказаўся пра яго негатыўна. Як правіла, людзі распавядалі пра часы, калі ён працаваў у Шклоўскім раёне. У сваіх гісторыях яны апісваюць Лукашэнку як прыхільніка дысцыпліны, строгага, але справядлівага кіраўніка.

## Мары пра краіну замкаў?

У Александрыі можна сустрэць сучасныя будынкі, стылізаваныя пад замкі. Натуральна, падабенства даволі ўмоўнае. Але пасля наведвання свежых рэканструкцый драўляных вежаў на гарадзішчы ў Копысі яшчэ больш пачынаеш задумвацца пра глыбінныя прычыны з'яўлення падобных узораў архітэктуры.

## Крызісам па пацёмкінскіх калгасах

З размовы з мясцовымі жыхарамі вымалевалася досыць нечаканая карціна. Нават супрацоўнікі аблашчанага ўладамі і дзяржсубсідыямі акцыянернага таварыства «Гарадзец» скардзіліся на малыя заробкі. Тут зайздросцяць супрацоўнікам холдынгу "Александрыйскае", але і пра яго можна сёння пачуць самыя розныя водгукі.

Крызіс ударыў па ўсіх. І можна толькі ўявіць, што адбываецца ў простых гаспадарках, калі ў «прэзідэнцкіх» калгасах пачалі наракаць на заробкі.

Увогуле, адно з самых моцных уражанняў ад Шклоўшчыны — гэта прорва паміж багатымі і беднымі гаспадаркамі. У Александрыі і Копысі ляжыць раўнюткі асфальт, у Малых Славенях — грунтоўка, яма на яміне.

## Чаму варта наведаць Шклоў

Па-першае, тут вельмі маляўнічыя краявіды. Мясцовыя лясістыя пагоркі і Дняпро вы будзеце памятаць яшчэ доўга. Я зладзіў невялікі эксперымент на сваёй старонцы ў Фэйсбуку, апублікаваўшы фота Малой Зарэчнай вуліцы ў Шклове з подпісам «Адгадайце краіну па фота».

Беларусь назвалі некалькі чалавек, але ў якасці варыянтаў былі Сербія, Чарнагорыя, Украіна, Малдова, Румынія, Славакія і Літва.

Па-другое, Шклоў — гэта мноства дэталяў. Ад флюгера-пеўніка на фоне мясцовай царквы да драўляных брамаў і аканіцаў. Не кажучы ўжо пра мясцовую ратушу.

**gazetaby.com**

# Спыніць пераслед прафсаюзаў

**У сувязі з новай хваляй пераследу Савет Беларускага прафсаюза РЭП 7 жніўня прыняў адмысловую заяву.**

«Супрацоўнікамі Дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта Дзяржаўнага кантролю былі праведзены масавыяператрусы ў офісах Беларускага прафсаюза работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП), Беларускага незалежнага прафсаюза (БНП), у кватэрах старшыняў прафсаюзаў РЭП і БНП Генадзя Фядыніча і Мікалая Зіміна, старшыні Мінскай гарадской арганізацыі, галоўнага бухгалтара прафсаюза РЭП Ігара Комліка, сакратара-казначэя БНП Сняжаны Грыневіч, былога кіраўніка сайта praca-by.info Наталлі Пічужкінай, — гаворыцца ў заяве. — У вынікуператрусаў канфіскаваныя ўсе жорсткія дыскі кампутараў, арыштаваны офіс прафсаюза РЭП, асабістая маёмасць Генадзя Фядыніча і Ігара Комліка.

Супраць Г. Фядыніча і І. Комліка ўзбуджаная крымінальная справа за «ўхіленне ад выплаты сум падаткаў, збораў у асабліва буйных памерах».

Ігар Комлік з 2 жніўня па цяперашні час знаходзіцца ў турме. Савет прафсаюза лічыць гэтую акцыю ўладаў выключна палітычнай, звязанай перш за ўсё з актыўнай дзейнасцю прафсаюза і яго лідара па абароне сацыяльна-эканамічных інтарэсаў грамадзян.

Гэтыя дзеянні ўладаў накіраваныя на ліквідацыю незалежнага прафсаюзнага руху ў Беларусі і груба парушаюць Канвенцыю МАП №87 «Аб свабодзе аб'яднанняў».

У сувязі з гэтым Савет патрабуе: «неадкладна вызваліць Ігара Комліка; спыніць крымінальны пераслед лідараў Беларускага прафсаюза РЭП Генадзя Фядыніча, Ігара Комліка і зняць з іх усе беспадстаўныя абвінавачванні; спыніць умяшанне ва ўнутраныя справы прафсаюза».

Таксама прафсаюзныя лідары заклікаюць беларускую грамадскасць, глабальныя прафсаюзныя аб'яднання, IndustriALL і міжнародную супольнасць «скарыстаць усе наяўныя сродкі ў абарону незалежных прафсаюзаў Беларусі і не дапусціць расправы над лідарамі Незалежнага беларускага прафсаюза РЭП Генадзем Фядынічам і Ігарам Комлікам».

**Паводле прэс-рэлізу**

# «Паляванне на нас пачалося ў 2014-м, пасля Майдану...»

Арцём ЛЯВА

**У Мінску прайшла прэсавая канферэнцыя форуму «Свабоду палітвязням» з удзелам Яўгеніі Жалновай, маці Аляксея Жалнова, і Раісы Валавік, маці Іллі Валавіка.**

Пра сітуацыю вакол палітвязняў з так званага пашыранага спісу, якіх вызнае форум, журналістам паведамілі таксама Павал Севярынец, Ганна Шапуцька і Вольга Мікалайчык.

Як адзначыў вядоўца прэсавай канферэнцыі, на сённяшні дзень форум прызнае палітзняволенымі 11 чалавек. Гэта Міхаіл Жамчужны, Тарас Аватараў, Аляксей Жалноў, Ілля Валавік, Вадзім Бойка, Філіп Іваноў, Зміцер Цехановіч, Зміцер Паліенка, Ігар Комлік, Алесь Юркойць і Ірына Моцная.

«Заклікаем усіх беларусаў да салідарнасці. На іх месцы можа апынуцца кожны. Прапануем, каб умовай дыялогу была адсутнасць палітвязняў і спыненне рэпрэсій. Немагчыма, каб людзей саджалі за краты за іх нацыяналістычныя і патрыятычныя погляды», — адзначыў Павал Севярынец.

Яўгенія Жалнова распавяла пра свайго сына, які асуджаны паводле артыкула 364 Крымінальнага кодэксу («гвалт у дачыненні да супрацоўніка міліцыі»). Інцыдэнт адбыўся ў 2013 годзе ў Бабруйску. Аляксей Жалноў з бацькам зрабілі заўвагу міліцыянтам, якія прыпаркаваліся на ходніках, чым парушылі ПДР. Міліцыянты з ужываннем гвалту затрымалі бацьку і сына ды сфабрыкавалі супраць Аляксея Жалнова крымінальную справу.

Выглядае на тое, што міліцыянты такім чынам помсцілі бацьку Аляксея, які ў сацыяльных сетках актыўна выкрываў парушэнні закону з боку праваахоўнікаў. Спачатку хлопца пакаралі абмежаваннем волі, праз тры гады перавялі адбываць пакаранне ў Наваполацк, паставілі на прафілактычны ўлік. Неўзабаве распачалі крымінальную справу паводле артыкула 415 КК, інкрымінуючы парушэнне рэжыму. Пасля чарговага суда адправілі ў калонію ў Горках. Ужо ў калоніі, на трэці дзень знаходжання там, адправілі ў ШЫЗА. З канца студзеня адправілі ў ПКТ, дзе ён, паводле слоў маці, хутчэй за ўсё, знаходзіцца дагэтуль. Тэрмін зняволення Аляксея Жалнова заканчваецца 21 кастрычніка.

Паводле Раісы Валавік, яе сын — футбольны фанат і антыфашыст — стаў ахвярай прыхільнікаў «рускага свету» ў сілавых структурах.

«Паляванне на нас пачалося ў 2014-м, пасля Майдану. Быў першы прэвентыўны арышт перад хакейным чэмпіянатам. У 2015-м яго абкружылі людзі ў цывільным, збілі. Праз 10 дзён арыштавалі на працы і паспрабавалі абвінаваціць у парушэнні грамадскага парадку. Справа фактычна развалілася. Але сёлета справу аднавілі, і ў сакавіку суд пакараў Іллю Валавіка паводле артыкулаў 339 («хуліганства») і 193 Крымінальнага кодэксу («кіраванне незарэгістраванай арганізацыяй») 10 гадамі калоніі».

Паводле маці Іллі, ён актыўна выступаў супраць адэптаў «рускага свету». Ілля — вялікі патрыёт Беларусі, антыфашыст, спартовец, ён карыстаўся аўтарытэтам сярод сяброў. Зараз Ілля адбывае тэрмін у Магілёўскай калоніі.

Ганна Шапуцька распавяла, што акрамя Аляксея Жалнова ў Горках адбываюць тэрміны зняволення таксама Міхаіл Жамчужны і, хутчэй за ўсё, Філіп Іваноў. Зміцер Цехановіч, паводле яе звестак, знаходзіцца ў Віцебску.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Адпачываць няма калі…

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Расійская балерына Анастасія Валачкова ў адпачынку села на шпагат у купальніку. Пуцін злавіў шчупака. Белая акула ў Хугардзе напала на турыста. Беларус, чытаючы такія навіны, думае: «Чым вы займаецеся? А як жа бітва за ўраджай?»**

Кіраўніцтва стабільнай і квітнеючай, разам з іншымі беларусамі, таксама працуе без адпачынку. Аляксандр Рыгоравіч праводзіць бясконцыя нарады, на якіх заклікае нараджаць дзяцей, тлумачыць асабліваці дэкрэту аб лайдаках ці пужае бізнес адказнасцю. І ездзіць у працоўныя паездкі ў Брэст, а прэм'ер-міністра Андрэя Кабякова выпраўляе ў Гомельскую вобласць.

Навошта інспектаваць ход бітвы за ўраджай на самым высокім узроўні? Справа ў тым, што днямі Савет міністраў Беларусі ў чарговы раз зацвердзіў дзяржаўную праграму развіцця машынабудаўнічага комплексу на 2017–2020 гады.

«Фінансаванне дзяржпраграмы будзе ажыццяўляцца ў межах сродкаў, прадугледжаных у рэспубліканскім бюджэце, а таксама за кошт уласных сродкаў арганізацый — выканаўцаў дзяржпраграмы, крэдытных рэсурсаў банкаў і іншых крыніц, не забароненых заканадаўствам», — паведамілі ва ўрадзе.

У цэлым на гэтую праграму плануецца выдаткаваць 4 мільярды 865,5 мільёна рублёў. А мэтай праграмы з'яўляецца развіццё, павышэнне эфектыўнасці і канкурэнтаздольнасці машынабудаўнічага комплексу: «Дзяржаўная праграма грунтуецца на наступных асноўных прыярытэтах: рост і дыверсіфікацыя экспарту тавараў; забеспячэнне збалансаванасці знешняга гандлю; прыцягненне інвестыцый у мэтах павелічэння прадукцыйнасці працы і фарміравання цэнтраў апераджальнага развіцця».

Наш машынабудаўнічы комплекс, у які ўкладаюцца такія шалёныя грошы, — гэта перш за ўсё грузавікі і камбайны, якія зараз і праходзяць «абкатку» на палях краіны. Вось і едуць Кабякоў з Лукашэнкам паглядзець, куды пойдуць мільярды.

Але штосьці мне падказвае, што для «росту і дыверсіфікацыі экспарту» і «прыцягнення інвестыцый» дзяржпраграма зусім не патрэбная. Патрэбная якасць тавараў, добры менеджмент і спрыяльны інвестыцыйны клімат. Прычым, у адваротнай паслядоўнасці: пры добрым інвестыцыйным клімаце добры інвестар укладзецца ў менеджмент і вытворчасць — і атрымае якасны тавар, які зможа прадаць.

Што ў нас робіцца з інвестыцыйным кліматам, мы можам паглядзець на прыкладзе беларуска-кітайскіх легкавікоў «Geely». Падавалася б, цалкам камерцыйнае прадпрыемства і вытворчасць. І раптам той жа самы Кабякоў заяўляе пра распрацоўку праграмы падтрымкі набыцця гэтых аўтамабіляў насельніцтвам Беларусі.

У нармальнай краіне гэта завецца лабізмам і карупцыяй, і за такое даюць па шапцы.

Словы Кабякова ўзрушылі ўсіх беларускіх аўтааматараў. Усе ведаюць, што ў нас азначае слова «стымуляванне». Ужо з'явіліся асцярогі, што «стымуляцыя будзе, хутчэй за ўсё, чарговым падаткам/пошлінай для іншых аўто. Або прыдумаюць яшчэ што-небудзь больш жорсткае, напрыклад падатак на аўтамабілі, старэйшыя за 15 гадоў», піша аўтапартал ABW.by.

І ўвогуле, паводле Белстата, нашая клапатлівая сацыяльная дзяржава абыходзіцца нам усё даражэй і даражэй. Беларускія сем'і сталі менш выдаткоўваць грошай на алкаголь, адзенне і забаўкі, але павялічылі выдаткі на аплату камунальных паслуг і сувязі. Пра гэта сведчаць дадзеныя выбарачнага абследавання хатніх гаспадарак па ўзроўні жыцця ў 2016 годзе, паведамляе Белстат.

> **39%**
>
> **бюджэту сям'я выдаткоўвае на харчаванне. Менш купляюць адзенне, прадметы хатняга ўжытку. Затое выраслі выдаткі на «субсідуемую камуналку» і «бясплатную» ахову здароўя**

На прадукты харчавання ў сярэднестатыстычнай сям'і ў мінулым годзе сыходзіла 39% бюджэту. Але гэтае харчаванне нельга назваць здаровым: менш грошай з сямейнага бюджэту стала сыходзіць на мяса, рыбу, гародніну, бульбу, садавіну, затое выраслі выдаткі на хлеб.

Менш сродкаў беларусы трацілі на алкаголь і цыгарэты — 3,3% бюджэту. Менш сталі выдаткоўваць на адзенне і абутак: у мінулым годзе — 7,9% (у 2015-м — 8,3%, а ў 2012-м — 11,6%). Знізіліся выдаткі на прадметы хатняга ўжытку, бытавую тэхніку і догляд за домам (6% супраць 6,6% у 2015-м), адукацыю (1,4% супраць 1,5%), культуру, адпачынак і спорт (4,9% супраць 5,4%).

А зэканомленыя сродкі мы аддаём дзяржаве. Больш грошай стала сыходзіць у сярэдняга сямейства на «субсідуемую дзяржавай камуналку». У 2016 годзе на гэты артыкул выдаткаў вылучалі 7,1% бюджэту, у 2015-м — 6%, а ў 2012-м — 4,1%. Выраслі затраты на «бясплатную» ахову здароўя (4,6% супраць 4,2% у 2015-м годзе), і сувязь (5,4% супраць 4,7%).

Таму не дзіва, што, калі ўсе адпачываюць, мы змагаемся за ўраджай… А тут нас яшчэ і «Geely» прымусяць набыць. І не толькі «Geely».

Намеснік старшыні канцэрна «Беллегпрам» Аляксандр Якаўчыц паведаміў, што да канца года можа быць зацверджаны дзяржстандарт адзення для навучэнцаў. «Цяпер заканчваецца праца над стандартам адзення для навучэнцаў. Мяркую, што да канца гэтага года ён будзе зацверджаны Дзяржстандартам, і мы будзем кіравацца гэтым стандартам пры вытворчасці адзення для школьнікаў», — сказаў Якаўчыц.

Паводле яго, галоўная мэта работы над такім стандартам — ліквідаваць рознагучанні ў разуменні таго, што ж з'яўляецца адзеннем дзелавога стылю. «Дзіця можа лічыць, што гэта адзенне дзелавога стылю, а ва ўстанове адукацыі могуць думаць па-іншаму. Таму ўсе нормы, пачынаючы ад тэхналогій вытворчасці і заканчваючы пакункам, будуць прадугледжаны ў гэтым стандарце», — адзначыў намеснік старшыні канцэрна.

Што гэта значыць на самай справе? Тым, хто цяпер збірае дзіцё ў школу, напрыканцы года прыйдзецца яго «перасабіраць» згодна з новым стандартам. Гэткае новае вымагальніцтва з боку любага «Беллегпраму».

І амаль адначасова і паралельна да нас прыйшлі дзве навіны са сферы высокіх тэхналогій. Хакерская група пад кодавай назвай Mr. Smith узламала серверы тэлеканала HBO і скрала адтуль сцэнары да пяці эпізодаў мегапапулярнейшага серыялу «Гульня Тронаў». І пачала шантажаваць кампанію, пагражаючы ў іншым выпадку выкласці ў сетку ўвесь серыял і іншыя важныя і канфідэнцыйныя файлы. Вымагальнікі патрабуюць выплаціць ім каля 7,5 мільёна долараў у біткойнах.

Пры чым тут Беларусь? Ды пры тым, што ў той жа час невядомыя зламыснікі ўзламалі Інстаграм мінскага Камароўскага рынку, выдалілі з акаўнта «Камароўкі» ўсе фатаграфіі і заявілі, што не адновяць старонку, пакуль ім не заплацяць 15 тысяч рублёў (каля 7,5 тысяч долараў).

З аднаго боку, бачна, што Беларусь стала IT-краінай і без прэзідэнцкіх дэкрэтаў. З іншага — «якая краіна, такія і тэракты».

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Сяргей Пальчэўскі

**Актывіст «Маладога фронту», фігурант «справы патрыётаў», адзін з самых вядомых абаронцаў Курапатаў з'ехаў ваяваць на Данбас.**

Унтэрв'ю belsat.eu ён патлумачыў, што з'ехаў на Украіну неўзабаве пасля таго, як раскрыў факт падпісання паперы аб супрацоўніцтве з КДБ. Яго шантажавалі тым, што прыцягнуць да адказнасці за даўняе ДТЗ, якое адбылося нібыта па яго віне. Каб улагодзіць праблему, ён звязаўся з пацярпелымі, а тыя затрабавалі неймаверныя грошы — 10 тысяч долараў. «Мяркую, што не без удзелу КДБ пацярпелыя прыдумалі такую суму», — сказаў Пальчэўскі.

Таму Пальчэўскі з'ехаў і некаторы час проста жыў ва Украіне, а потым выправіўся на Данбас і зараз праходзіць навучанне на гранатамётчыка з процітанкавым гранатамётам СПГ-9.

«Я ўсведамляю, што ў Беларусь дарогі няма. Ну, так я і не збіраюся вяртацца, пакуль там Лукашэнка. Калі вяртацца, то на танку. Можа, так і прыйдзецца. У гэты час тут я набяруся вопыту, навучуся, як абараняць краіну. Гэтыя веды могуць спатрэбіцца мне ў будучыні», — заявіў Пальчэўскі.



## Лявон Вольскі

**Беларускі музыка і ўсе ўдзельнікі гурта «Крамбамбуля» вырашылі падтрымаць патрыётаў, якія ўзнялі падчас канцэрту бел-чырвона-белы сцяг.**

Іван Лісавец і Дзмітрый Навуменка ўзнялі нацыянальны сцяг на фестывалі «Хмяльной» у Мінску 5 жніўня. Па выхадзе з фестываля іх затрымалі супрацоўнікі міліцыі ў цывільным, завялі ў пастарунак і выпісалі пратаколы за дробнае хуліганства. Ноч хлопцы правялі ў РУУС. 7 жніўня ў судзе Заводскага раёна беларускай сталіцы міліцыянты сведчылі, што Іван Лісавец і Дзмітрый Навуменка «размахвалі рукамі, лаяліся матам у паветра і былі п'яныя».

Суддзя Алена Някрасава прысудзіла па 10 базавых велічыняў штрафу кожнаму з іх.

А пасля ў акаўнце гурта «Крамбамбуля» на Фэйсбуку з'явіўся допіс: «Паведамляем: на сходзе атраду хуткага разгортвання «Крамбамбуля» было вырашана кампенсаваць фінансавыя страты (штраф) за ўзняты на канцэрце бел-чырвона-белы сцяг партызанам Івану і Змітру. Што і было выканана сёння. Жыве Беларусь!»



## Сяргей Далідовіч

**Вядомы беларускі лыжнік абвясціў збор сродкаў для ўдзелу ў зімовай Алімпіядзе 2018 года.**

Сродкі збіраюцца на краўдфандынгавай платформе «Талака». Пайсці на такі незвычайны шлях 44-гадовага спартоўца прымусіла тое, што яго не ўключылі ў нацыянальную зборную, палічыўшы занадта старым. Далідовіч удзельнічаў пад сцягам Беларусі ўжо ў шасці Алімпіядах. Цяпер ён хоча паспрабаваць свае сілы ў сёмай.

«На працягу апошніх 25 гадоў я з'яўляюся найлепшым лыжнікам Беларусі. На маім рахунку ўдзел у шасці Алімпіядах, пачынаючы з самай першай, у якой Беларусь прымала ўдзел як самастойная дзяржава, — у Лілехамеры ў 1994 годзе. Узімку я хачу паехаць на сваю сёмую Алімпіяду, і для гэтага я збіраю грошы на Talaka.by», — напісаў Далідовіч.

Для ўдзелу ў Алімпіядзе яму неабходна сабраць 30 тысяч рублёў. Далідовіч адзначае, што на кожнай Алімпіядзе (акрамя Ванкувера–2010) ён выступаў лепш, чым на папярэдняй.

Лыжнік кажа, што яго спартовай пенсіі ў 350 рублёў хапае на транспарт і харчаванне. А каб трапіць на Алімпіяду, неабходна прайсці некалькі горных збораў за мяжой. Для гэтага ён і збірае 30 тысяч рублёў. «Гэтую суму неабходна сабраць да пачатку кастрычніка», — удакладняе ён.

Пра ўсе этапы падрыхтоўкі спартовец абяцае распавядаць на сайце і ў сацсетках.

Магчыма, на такі крок Далідовіча натхніў прыклад «народнага чэмпіёна» Віталя Гуркова, якога таксама не ўключылі ў зборную на Чэмпіянат свету па тайскім боксе. Гуркову грошы сабралі за дзень, а пасля спартовыя чыноўнікі ўсё ж ачомаліся і ўключылі яго ў склад зборнай.

а Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Пошук навізны ў новай канцэпцыі

## Праз пяць гадоў у Беларусі плануецца «замкнуць вертыкаль аднаўлення краіны»

Нарэшце! Дачакаліся! На працягу многіх гадоў зласліўцы, да ліку якіх належыць і аўтар «Азбука паліталогіі», папракалі адзінага палітыка (АП) у зацыкленасці на вырашэнні бягучых задач. Нічога дзіўнага ў гэтым няма. Адно з адрозненняў сучаснага аўтарытарызму ад свайго савецкага папярэдніка палягае ў няздольнасці кіруючага класа сфармаваць вобраз будучыні. Таму мы не ведаем, да чаго імкнуцца. І таму не можам скласці план рэформаў. Што рэфармаваць — зразумела. Але якая канчатковая мэта пажаданых пераўтварэнняў?

4 ліпеня з нявызначанасцю было скончана. Па меншай меры, так мне спачатку падалося. Падчас рабочай паездкі ў Віцебскую вобласць АП вызначыў канцэпцыю развіцця Беларусі. Слова «вызначыў» я запазычыў з афіцыйнага прэс-рэлізу. Яно здзівіла мяне сваёй невыразнасцю, сваёй неадпаведнасцю велічы моманту.




Я адчуў тое, што ў псіхалогіі прынята называць «кагнітыўным дысанансам». На шчасце, працягваўся ён нядоўга. Ужо на наступны дзень самая салідная газета краіны выправіла хібу рэдактара прэс-рэлізу: АП не «вызначыў», а «абвясціў» новую канцэпцыю развіцця. Накіраваная яна будзе «на стварэнне ў населеных пунктах рознага ўзроўню якасных умоваў для жыцця людзей».

Усё ў імя чалавека, усё дзеля чалавека! Ну як тут ні запляскаць у ладкі! Я ж яшчэ памятаю 1961 год і XXII з'езд партыі з яго выдатным лозунгам. Шкада, што перайсці ад слова да справы тады не атрымалася. Віной таму, як пазней высветлілася, быў валюнтарызм Хрушчова. Але мы не паўторым яго памылак і не наступім другі раз на тыя ж граблі. Дый адкуль у Беларусі ўзяцца палітыку-валюнтарысту (з граблямі, дзякуй Богу, праблем няма)?

Яшчэ адзін важны момант: генеральны сакратар КПСС ішоў ад абстрактных схем, а мы ідзем ад жыцця, мы ідзем ад вынікаў эксперыменту ў гарадскім пасёлку Копысь, старт якому АП даў сваім распараджэннем у лістападзе 2016 года. Вынікі ўражваюць. За няпоўны год удалося ўладкаваць інжынерна-транспартную інфраструктуру, у тым ліку зрабіць рэканструкцыю вулічна-дарожнай сеткі; стварыць новыя сацыяльныя, гандлёвыя, турыстычныя і спартыўныя аб'екты; правесці мадэрнізацыю дзеючых прадпрыемстваў. «Пры гэтым, — падкрэслена ў прэс-рэлізе, — улічваліся пажаданні мясцовых жыхароў».

Карціна ўражвае. Заплюшчваю вочы — і бачу сярэднестатыстычнага жыхара гарадскога пасёлка, які даводзіць да спецыялістаў з Мінска свае пажаданні наконт уладкавання інжынерна-транспартнай інфраструктуры.

Вось такі ўзор для пераймання ўсёй краіне. І ўсё гэта ў максімальна сціслыя тэрміны, якасна і нядорага! І ўсё гэта ў год навукі! Такі наш адказ на выклік чацвёртай прамысловай рэвалюцыі!

### Інтрыгоўная назва

Узор («прыклад для пераймання») створаны. Што далей? А далей кожны год у кожным раёне плануецца ў двух падобных пасёлках наводзіць парадак, і праз пяць гадоў «такім чынам замыкаецца вертыкаль аднаўлення краіны: Мінск — абласныя цэнтры — райцэнтры — пасёлкі гарадскога тыпу — аграгарадкі — вёскі, якія раней былі цэнтрамі гаспадарак».

Але тут у мяне нечакана кальнула ў левым боку. Копысь у якасці ўзору быў абраны не таму, што гэта месца нараджэння АП. Выбар быў звязаны перш за ўсё з тым, што АП «добра ведае гэтыя мясціны і можа асабіста пракантраляваць якасць, неабходнасць і запатрабаванасць тых ці іншых мер па развіцці населенага пункта».

Але такіх пасёлкаў у нас 60–70. Другога АП у нас няма, а для арганізацыі якаснага кантролю патрэбна больш за паўсотні такіх «адзіных палітыкаў». Вось дзе праблема! Да «замыкання вертыкалі аднаўлення краіны» засталося пяць гадоў. Дзе гарантыя, што яна замкнецца ў тэрмін і з належнай якасцю?

Жартаваць можна і далей. Але я два разы перачытаў прэс-рэліз і тры разы — інтэрнэт-варыянт газетнага артыкула, аднак так і не зразумеў навізны канцэпцыі. Сваё неразуменне я выказаў у каментары да артыкула на сайце, аднак не меў спадзяванняў на персанальнае тлумачэнне. Якія там спадзяванні! Маё пытанне рэдакцыя нават не адважылася размясціць на сайце.

Каб падвесці тэарэтычную базу пад новую канцэпцыю, нам спатрэбіцца кніга амерыканскага сацыёлага Дж. Скота «Добрымі намерамі дзяржавы. Чаму і як правальваліся праекты паляпшэння ўмоў чалавечага жыцця». Інтрыгоўная назва, пагадзіцеся.

Адразу павінен папярэдзіць, што ў кнізе абагульнены вопыт дзяржаўных праектаў прынцыпова іншага маштабу. У прыватнасці, «Вялікага скачка» ў Кітаі, калектывізацыі ў СССР, прымусовага збору людзей у вёскі ў Танзаніі, Мазамбіку і Эфіопіі. Тым не менш я паспрабую перанесці высновы паважнага навукоўца на родную зямлю.

### Першы, другі, трэці, чацвёрты

Трагічным фіналам пералічаных вышэй дзяржаўных праектаў спрыяла спалучэнне чатырох элементаў. Першы з іх — адміністрацыйнае памкненне, накіраванае на прывядзенне ў парадак прыроды і грамадства. Адкрыем прэс-рэліз ад 4 чэрвеня. Слова «парадак» згадваецца ў ім чатыры разы: тры разы з дзеясловам «навесці» і адзін раз — з дзеясловам «падтрымаць».

Такія суадносіны не павінны здзіўляць. Перш, чым заняцца падтрыманнем парадку, яго неабходна спачатку навесці. А вось з гэтым праблема! У ліпені пайшоў 24-ы год, як распачаўся працэс «навядзення парадку».

Другі элемент — гэта вера ў навукова-тэхнічны прагрэс, у магчымасць панавання над прыродай і — галоўнае — у рацыянальнасць сацыяльнага парадку. Важна падкрэсліць, што гаворка ідзе менавіта пра веру, якую не варта блытаць з сур'ёзнай навуковай практыкай. Так, АП не толькі верыць у магчымасць адкрыцця ў невялікіх населеных пунктах вытворчасцяў на ўзроўні лепшых сусветных стандартаў, але і ў тое, што «мы ўжо больш чым палову шляху ў гэтым плане прайшлі».

**Мегапраекты практычна заўсёды заканчваюцца праваламі, бо, задуманыя і рэалізаваныя з адзінага цэнтра, яны не могуць улічваць разнастайнасць рэальнасці**

Аднак — падкрэслівае Дж. Скот — спалучэнне фактараў становіцца смяротна небяспечным, толькі калі да першых двух элементаў далучаецца трэці. Гэты элемент — аўтарытарная дзяржава, якая жадае і здольная выкарыстоўваць усю сваю ўладу, каб увасобіць у жыццё ёю ж распрацаваныя праекты.

За прыкладамі далёка хадзіць не трэба. Спадзяюся, беларусы не забыліся трохразовую дэвальвацыю і трохзначную інфляцыю ў 2011 годзе, справакаваныя жаданнем «дзяржавы для народа» ашчаслівіць беларусаў сярэднім заробкам у 500 долараў. Дарэчы, вінаватыя за гэту высакародную ініцыятыву не толькі не былі прыцягнутыя да адказнасці, аднак нават паймення не названыя.

Чацвёрты элемент, цесна звязаны з трэцім, — слабая грамадзянская супольнасць, няздольная супрацьстаяць планам аўтарытарнай дзяржавы. Супраць лому няма прыёму! Але для падаўлення ўсяго, што праяўляе жаданне самастойна рухацца (незалежныя прафсаюзы, СМІ і г.д.), дзяржава прымяняе не толькі лом, але і псеўдаструктуры грамадзянскай супольнасці. Як тут ні прыгадаць афіцыйныя прафсаюзы з іх фенаменальнай здольнасцю «гнеўна маўчаць».

### У Танзанію па досвед

Мегапраекты практычна заўсёды заканчваюцца праваламі, бо, задуманыя і рэалізаваныя з адзінага цэнтра, яны не здольныя ўлічваць разнастайнасць рэальнасці. Аўтарытарныя спецыялісты па падвядзенні ўсяго, што варушыцца, да агульнага назоўніка не ў стане адказваць на выклікі свету, што імкліва змяняецца. Заклік «ісці ад жыцця» добра гучыць з трыбуны, аднак на практыцы ідзе ад схем і ўзораў, прычым самых прымітыўных.

Гарадскі пасёлак Копысь — чарговы ўзор, створаны кулібінымі ад бюракратычнай вертыкалі. У бліжэйшыя пяць гадоў яго трэба будзе растыражаваць на ўсю краіну. Але перш чым распачаць чарговае марнаванне грошай падаткаплацельшчыкаў, я б рэкамендаваў звярнуцца да досведу Танзаніі.

Сацыяльны праект па павелічэнні дабрабыту 5 мільёнаў чалавек шляхам перасялення ў вёскі, пабудаваныя паводле аднаго праекту, праводзіўся ўрадам Танзаніі з 1973 па 1976 гады. Чыноўнікі, што кіраваліся ўласнымі інтарэсамі (у першую чаргу — спрашчэннем кантролю), заняліся будаўніцтвам не проста вёсак, а правільных вёсак.

Візуальная эстэтыка такіх вёсак злучала ў адно цэлае элементы адміністрацыйнага парадку, ахайнасці і выразнасці. У поўнай адпаведнасці з бюракратычным стылем мыслення, уздоўж прамых дарог выстраіліся на мінімальнай адлегласці адзін ад аднаго дамы. Вырошчванне сельгаскультур было арганізавана блокавым метадам, пры якім кожны блок адпавядаў дакладна вызначанаму тыпу культуры, што істотна спрашчала кантроль з боку чыноўнікаў.

Вынікам адміністрацыйнага планавання стала сацыяльная і экалагічная катастрофа. Абмяжуюся адной цытатай з кнігі: «Для надзвычай рухомых масаў стварэнне буйных фермерскіх гаспадарак з выпасам быдла на адным месцы апынулася абсалютным бедствам — стала проста немагчыма здабываць сродкі да існавання».

Беларусь — не Танзанія. Тым не менш, пералічаныя вышэй чатыры элементы, хай і з улікам нацыянальнай спецыфікі, здольныя звесці на нішто любыя добрыя намеры кіраўніцтва беларускай дзяржавы.

# Лібералізацыя бізнесу: адклалі, але прыстрашылі


Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Аляксандр Лукашэнка памахаў перад носам беларускіх прадпрымальнікаў «морквай» істотнай лібералізацыі бізнес-клімату, звыкла напалохаў, але ў выніку саму лібералізацыю адклалі да кастрычніка.**

Прадстаўнікі дзелавой супольнасці даўно чакалі вялікай нарады ў кіраўніка Беларусі па пытаннях лібералізацыі бізнесу. Нарэшце яна адбылася 8 жніўня.

Як было сказана ў афіцыйных паведамленнях, Аляксандр Лукашэнка заслухаў даклад па пытаннях выканання даручэнняў пра стымуляванне дзелавой ініцыятывы. Зрэшты, пакуль якіх-небудзь прынцыповых рашэнняў не прынята — пытанне адкладзенае да 1 кастрычніка. Да гэтай даты павінен быць падрыхтаваны ўжо паўнавартасны пакет дакументаў наконт стымулявання дзелавой ініцыятывы.

Зрэшты, паводле прадстаўнікоў бізнес-саюзаў, такі пакет ужо даўно гатовы. Аднак перш за ўсё яго падпісанне тармозіцца сілавымі структурамі, якія больш за іншых асцерагаюцца прадпрымальніцкай «вольніцы».

Выступаючы на нарадзе, Лукашэнка, як звычайна, «працаваў на аўдыторыю»: часам здавалася, што ён яшчэ большы ліберал, чым прадстаўнікі бізнес-супольнасці. Напрыклад, ён заявіў: «Мяне калоціць, калі дакладваюць, што прадпрымальнікі спрабуюць працаваць і справай займаюцца, а мы пачынаем блохаў вышукваць. Гэтага быць не павінна».

Па словах Лукашэнкі, ад улады чакаюць рашэнняў, якія дазволяць любому чалавеку адкрыць сваю справу і працаваць, кіруючыся мінімальным наборам патрабаванняў.

## Абяцанне свабоды і адказнасці

Ужо вядома, што ў пакет дакументаў па пытаннях стымулявання дзелавой ініцыятывы ўвойдуць каля дзесяці нарматыўна-прававых актаў. Іх прыняццю будзе папярэднічаць яшчэ адна падобная нарада.

Лукашэнка папярэдзіў, што перад падпісаннем кожнага дакумента ён асобна заслухае даклад яго распрацоўшчыкаў. «Калі ў мяне няма пытанняў пасля нашага абмеркавання, дапрацоўкі, я падпішу гэтыя дакументы. Калі ёсць пытанні, будзем дапрацоўваць. Пытанне вельмі сур'ёзнае, нельга памыліцца», — падкрэсліў кіраўнік Беларусі.

Пакуль, наколькі можна меркаваць па цытатах, плануецца зрабіць вялікі крок наперад у параўнанні, напрыклад, з Дырэктывай №4, якая таксама павінна была значна спрасціць вядзенне бізнесу, але так і не змагла гэта зрабіць.

Пакет дакументаў «для бізнесу», пра які гаварылася на нарадзе ў кіраўніка краіны, быў падрыхтаваны створанай у студзені гэтага года працоўнай групай па ўдасканаленні кантрольнай дзейнасці і ўхіленні ад залішніх патрабаванняў да суб'ектаў гаспадарання.

Хуткія палёгкі ў вядзенні бізнесу кіраўнік Беларусі наўпрост увязвае з падвышэннем адказнасці дзелавой супольнасці. Прычым у такіх фармулёўках, што становіцца зразумела: бездань высілкаў бізнес-супольнасці па дэкрыміналізацыі эканамічнай дзейнасці была марнай.

«Крый Божа, пасля 1 кастрычніка, калі гэтыя дакументы набудуць моц, хтосьці дзесьці не так будзе сябе паводзіць — мала не падасца, я вам гарантую», — заявіў кіраўнік дзяржавы на нарадзе. Праўда, Лукашэнка тут жа паспрабаваў усіх пераканаць, што гаворка не ідзе пра нейкае ўзмацненне жорсткасці дзеля ўзмацнення жорсткасці. Паводле яго слоў, прадпрымальнікі проста павінны быць сацыяльна адказнымі і працаваць не толькі на сябе, але і на карысць дзяржавы.

Ужо сёння, аднак, можна сказаць, што «новая лібералізацыя» стане не больш чым чарговым міфам, які ўлада адрасуе бізнесу, а па вялікім рахунку — усяму грамадству. Чаму так? Індыкатар вельмі просты: насамрэч, на нарадзе ў Лукашэнкі, пра якую я распавядаю, прысутнічалі спрэс чыноўнікі. А бізнесоўцы — чакалі выраку пад дзвярыма. Таксама як і незалежныя эканамісты і эксперты.

Вось што распавёў адзін з галоўных распрацоўшчыкаў пакета прапаноў па лібералізацыі, эканаміст Яраслаў Раманчук: «На этапе збору інфармацыі, аналізу існуючай заканадаўчай базы, было бурна, па-забіяцку і аптымістычна. Ішла жывая дыскусія. Была надзея, што голас нацыянальнага прадпрымальніцтва будзе пачуты. Да канца лета гэта надзея выпарылася. Чыноўнікі ў звыклай, зручнай і ўпадабанай імі манеры правялі працу над дакументамі без прадстаўнікоў бізнес- і экспертнай супольнасці — і прадставілі праекты, як быццам ад усіх удзельнікаў працэсу. Нават Працоўная група, якая была створана для напісання новых актаў заканадаўства, не галасавала за канчатковыя варыянты праектаў. Працай, як кажуць службоўцы, па даводцы і звядзенні прапаноў, пазіцый і адносін займаліся безназоўныя чыноўнікі. Таму ніхто з бізнес-супольнасці і запрошаных экспертаў не ведае, што было ўрэшце пакладзена на стол кіраўніка краіны».



**«Новая лібералізацыя» стане не больш чым чарговым міфам. Чаму так? Індыкатар просты: на нарадзе ў Лукашэнкі прысутнічалі спрэс чыноўнікі. А бізнесоўцы ды незалежныя эканамісты і эксперты чакалі выраку пад дзвярыма**

## Ужо праходзілі

Тым часам у найноўшай гісторыі Беларусі ўжо адзначыўся «вялікі» дакумент, задачай якога было максімальна спрасціць жыццё беларускім прадпрымальнікам. Давайце прыгадаем, як склаўся лёс папярэдняга маштабнага дакумента з аналагічнымі задачамі — Дырэктывы №4.

Дырэктыва №4 была падпісаная ў апошні дзень 2010 года, што па-свойму сімвалічна — гэта быў першы значны дакумент пасля скандальнага прэзідэнцкага перавыбрання на новы тэрмін. Дакумент уключае дзевяць частак, кожная з якіх сфакусаваная на прадухіленні бар'ераў, з якімі сутыкаюцца суб'екты прадпрымальніцкай дзейнасці.

Найменні гэтых частак першапачаткова былі сфармуляваныя ў выглядзе канцэптуальных сістэмных патрабаванняў да ўсіх дзяржаўных органаў і арганізацый, грамадскіх аб'яднанняў і грамадзян:

1. Забяспечыць далейшае развіццё добрасумленнай канкурэнцыі суб'ектаў прадпрымальніцкай дзейнасці незалежна ад формы ўласнасці.
2. Стварыць умовы для беспярашкоднага ажыццяўлення прадпрымальніцкай дзейнасці.
3. Ліквідаваць залішнія адміністрацыйныя бар'еры пры ўзаемадзеянні паміж дзяржаўнымі органамі і юрыдычнымі асобамі, грамадзянамі.
4. Завяршыць гарманізацыю падатковай сістэмы Беларусі з дзейснымі ў еўрапейскіх краінах. Надаць падатковаму заканадаўству характар, стымулюючы добрасумленнае выкананне падатковых абавязанняў і дзелавую ініцыятыву.
5. Надаць кантрольнай (наглядной) дзейнасці папераджальны характар, перайсці да пераважнага выкарыстання прафілактычных мер, накіраваных на прадухіленне правапарушэнняў пры ажыццяўленні прадпрымальніцкай дзейнасці.
6. Удасканаліць інфраструктуру і сістэму фінансавання малога прадпрымальніцтва ў мэтах актывізацыі прадпрымальніцкай дзейнасці і забеспячэння эфектыўнай падтрымкі прадпрымальніцтва (прававой, арганізацыйнай і фінансавай).
7. Выключыць залішняе рэгуляванне рынка працы.
8. Сфармаваць прававую базу, стымулюючую развіццё ў Беларусі механізмаў дзяржаўна-прыватнага партнёрства.
9. Забяспечыць адназначнае прававое рэгуляванне і стабільнасць заканадаўства, якое рэгулюе прадпрымальніцкую дзейнасць.

Крытыкі дакумента тады адразу заявілі, што гэта хутчэй дэкларацыя «за ўсё добрае і супраць усяго дрэннага», чым рэальная прылада для лібералізацыі бізнесу. А для таго, каб бізнес-клімат у краіне сапраўды пачаў змяняцца, патрэбныя змены законаў, з якімі пераплятаецца тэкст дырэктывы. Дый тады спатрэбіцца час, пакуль змененыя законы пачнуць дзейнічаць.

Уласна кажучы, так і атрымалася. На працягу наступных шасці з лішнім гадоў беларускія прадпрымальнікі ў самых розных сітуацыях спрабавалі звярнуцца па дапамогу да артыкулаў Дырэктывы №4. Практычна заўсёды — у спрэчках з рознымі дзяржаўнымі органамі, пры адстойванні сваіх інтарэсаў на самых розных узроўнях. І амаль заўсёды — з нулявым эфектам.

У выніку максімум, што змагла даць Дырэктыва №4, — гэта дапамагчы ў заканатворчай дзейнасці. Законы і іншыя нарматыўныя акты, што прымаліся ў апошнія гады і так ці інакш былі датычныя дзелавой супольнасці, іх распрацоўшчыкі першапачаткова імкнуліся прывесці ў адпаведнасць з патрабаваннямі прэзідэнцкага дакумента (але атрымлівалася не заўсёды).

Аднак ад Дырэктывы №4 першапачаткова чакалі нашмат большага. Сёння ўжо можна сказаць: яна не здолела пераламаць стыль адносін паміж дзяржавай і бізнесам па адной простай прычыне — дакумент не ўтрымліваў нормаў прамога дзеяння. Гэта значыць, мог дзейнічаць толькі праз іншыя нарматыўныя дакументы і добрую волю дзяржаўных службоўцаў. Якой, як звычайна, бракавала.

Думаецца, беларуская дзелавая супольнасць улічыла гэты досвед. І пакет дакументаў пра стымуляванне дзелавой ініцыятывы, які мы павінны ўбачыць да 1 кастрычніка, напэўна будзе ўтрымліваць выразныя фармулёўкі, а не толькі добрыя пажаданні.

Пытанне толькі ў тым, ці хопіць адвагі ў беларускіх бізнесоўцаў запатрабаваць сабе рэальныя правы, а не іх дэкларацыю.




**Вайтовіч публічна выказаўся за тое, каб заканадаўчыя акты выдаваліся на беларускай і рускай мовах. Практыку, калі ў заканадаўстве амаль пануе руская мова, сцвярджаў старшыня Савета Рэспублікі, трэба згортваць**

# Справа Вайтовіча: як пазбавіліся ад старшыні Савета Рэспублікі

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Аляксандр Лукашэнка 25 ліпеня 2003 года збянтэжыў грамадскасць указам №320 аб адкліканні чальца Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Аляксандра Вайтовіча. Ва ўказе адсутнічала прычына адстаўкі кіраўніка палаты тэрытарыяльнага прадстаўніцтва, што давала глебу для розных меркаванняў і чутак.**

### Марныя спадзяванні

А пачалося ўсё 15 снежня 2000 года, калі Лукашэнка прызначыў прэзідэнта Нацыянальнай акадэміі навук Аляксандра Вайтовіча чальцом Савета Рэспублікі другога склікання. Праз некалькі дзён лёс прынёс Вайтовічу чарговы сюрпрыз. Лукашэнка прапанаваў яму пасаду старшыні гэтага органа.

19 снежня 2000 года пасля прамовы Лукашэнкі, у якой ён традыцыйна абрынуўся на прадпрымальнікаў і апазіцыю, абвінавацішы іх ва ўсіх смяротных грахах, у тым ліку і «в шпионаже против республики», кандыдатура Вайтовіча была зацверджана на безальтэрнатыўнай аснове. Галасаванне адбылося шляхам падачы імянных бюлетэняў. У выніку з 62 раздадзеных бюлетэняў 2 апынуліся несапраўднымі: 57 «сенатараў» выказаліся за Вайтовіча і 3 — «супраць». У падтрымку Вайтовіча ля мікрафона выступілі і на сённяшні час вядомыя асобы: Пётр Брыгадзін, Мікалай Чаргінец і Міхаіл Кадыраў.

Савет Рэспублікі другога склікання адрозніваўся наяўнасцю ў ім адносна вялікай колькасці прадстаўнікоў навукі і культуры. У гэтым (як і ў абранні Вайтовіча) быў тонкі палітычны разлік. Напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, якія павінны былі прайсці ў 2001 годзе, уладам трэба было паказаць добрыя адносіны дзяржавы і інтэлігенцыі.

Зрабіўшы стаўку на Вайтовіча, Лукашэнка вырашыў усё ж падстрахавацца. На пасаду намесніка старшыні Савета Рэспублікі быў абраны рэктар Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта Міхаіл Аўласевіч. Знакамітая Надзея Ермакова пафасна заявіла, што «два великих ученых составят очень хороший тандем в руководстве».

Праз шмат гадоў Аляксандр Вайтовіч, распавядаючы пра сваю згоду на пасаду старшыні Савета Рэспублікі, тлумачыў гэта добрымі памкненнямі: дапамагчы навуцы з матэрыяльна-тэхнічнага боку. Аднак, паводле ўласных прызнанняў, Вайтовіч хутка адчуў, што вельмі абмежаваны ў сваіх магчымасцях і што старшыня Савета Рэспублікі, які ў дзяржаўнай іерархіі займае трэцяе месца, фактычна з'яўляецца фігурай дэкаратыўнай.

Больш таго, стаўшы ля стырна фармальна вышэйшага заканадаўчага органа ўлады, акадэмік пачаў публічна рабіць заявы, якія не маглі не насцярожыць Лукашэнку. Так, пры адкрыцці трэцяй сесіі Савета Рэспублікі другога склікання 2 кастрычніка 2001 года выступ Вайтовіча ўяўляў сабой сапраўдную прамову кіраўніка дзяржавы. Вайтовіч казаў пра неабходнасць магутнага рыўка краіны наперад, пра ўдасканаленне заканадаўства. Па словах старшыні, напрыклад, у Канстытуцыі не зусім дакладна вызначаны паўнамоцтвы Савета Рэспублікі, у прыватнасці, у той частцы, дзе гаворка ішла аб роспуску Саветам Рэспублікі мясцовага Савета дэпутатаў у выпадку сістэматычнага і грубага парушэння Асноўнага закона з боку апошняга. Паняцці «груба» і «сістэматычна», лічыў Вайтовіч, павінны быць канкрэтызаваныя максімальна.



Совет Республики Национального собрания Республики Беларусь второго созыва Восьмая внеочередная сессия — Документ № 6

г.Минск — 12:14:57

Результаты открытого голосования от 28 июля 2003 года

Вопрос:

О досрочном прекращении полномочий члена Совета Республики Национального собрания Республики Беларусь второго созыва Войтовича А.П.

Принять Постановление Совета Республики.

Результаты голосования:

| | |
|---|---|
| Кворум для принятия решения | 33 |
| Зарегистрировано | 58 |
| Проголосовало "ЗА" | 56 |
| Проголосовало "ПРОТИВ" | 0 |
| Всего проголосовало | 56 |
| Не голосовало | 2 |
| РЕШЕНИЕ | принято |

Подписи:

/ Новиков А.Н. /
/ Рудаков А.В. /
/ Борейша Г.Г. /
/ Комоцкая Е.Г. /
/ /
/ /

Вайтовіч публічна выказаўся за тое, каб заканадаўчыя акты выдаваліся на беларускай і рускай мовах. Практыку, калі ў заканадаўстве амаль пануе руская мова, сцвярджаў старшыня Савета Рэспублікі, трэба згортваць.

У сваім выступе 2 кастрычніка 2001 года Вайтовіч закрануў праблему беларуска-расійскіх адносін, дэманструючы сябе прыхільнікам шчыльнай інтэграцыі Масквы і Мінска. У якасці «надзейнай асновы» інтэграцыі Вайтовіч назваў Канстытуцыйны акт Саюзнай дзяржавы. Прынамсі, гэта была даволі недальнабачная заява: у жніўні 2002 года Уладзімір Пуцін рэзанансна выказаўся аб знакамітых мухах і катлетах. А прапанова расійскага кіраўніка аб магчымасці ўваходжання Беларусі ў склад Расіі па абласцях напужала нават Лукашэнку.

Роўна праз год, 2 кастрычніка 2002-га, пры адкрыцці шостай сесіі Савета Рэспублікі другога склікання Вайтовіч канстатаваў, што стварэнне базы айчыннага заканадаўства ідзе маруднымі тэмпамі. Акадэмік прывёў лічбы: калі Расія за першую палову 2002 года прыняла 85 законаў і кодэксаў, то Беларусь — толькі 26. Канешне, прызнаваў Вайтовіч, Расія большая за Беларусь, аднак, лічыў акадэмік, калі будуецца саюзная дзяржава, то кожнаму боку варта мець адносна аднолькавую колькасць зацверджаных прававых актаў. Далей Вайтовіч зрабіў смелую заяву: «Пополнение действующей правовой базы декретами и указами президента не изменяет общего вывода о недостаточно быстрых темпах её создания».

Яшчэ больш сумна тое, разважаў Вайтовіч, што ў Беларусі галоўным распрацоўшчыкам законапраектаў выступала выканаўчая ўлада. Напрыклад, у Расіі за першую палову 2002 года Савет Федэрацыі разгледзеў 116 законапраектаў, 48,5% з якіх былі ўнесены кіраўніком краіны і ўрадам, а 45% — дэпутатамі Дзярждумы. У Беларусі ў гэты ж перыяд Савет Рэспублікі разгледзеў 43 законапраекты, якія ўсе былі ўнесены выканаўчай галіной улады. Вайтовіч тлумачыў гэта недахопам сродкаў і заклікаў у бюджэце на 2003 год спецыяльна замацаваць грошы для заканадаўцаў.

### Як пасварыліся Лукашэнка і Вайтовіч

Своеасаблівай кропкай невяртання ў адносінах Вайтовіча і Лукашэнкі стала Нацыянальная акадэмія навук. Нягледзячы на «элегантную перамогу» на прэзідэнцкіх выбарах 9 верасня 2001 года, кіраўнік дзяржавы некалькі разоў публічна заявіў, што не атрымаў ад БДУ чаканай падтрымкі, улічваючы дапамогу ўніверсітэту з боку ўладаў. Гэта стала прычынай, па якой БДУ, паводле ўказа ад 24 верасня 2001 года «Аб удасканаленні сістэмы рэспубліканскіх органаў кіравання і іншых дзяржаўных арганізацый, падначаленых ураду», страціў свой асаблівы статус і падпарадкоўваўся Міністэрству адукацыі.

Аднак Лукашэнкам, відаць, цвёрда апанавала думка пра тое, што большая частка навуковай супольнасці супраць яго. Таму наступны ўдар ён накіраваў на Акадэмію навук. Паводле дэкрэта №25 ад 17 кастрычніка 2001 года, знішчаліся галоўныя элементы самакіравання Акадэміі навук: выбарнасць прэзідэнта і прэзідыума. Цяпер усе яны зацвярджаліся кіраўніком дзяржавы (у кастрычніку 2004 года замест прэзідэнта Акадэміі навук была ўведзена пасада старшыні прэзідыума). Здзіўленне навуковай супольнасці выклікала прызначэнне 19 кастрычніка 2001 года прэзідэнтам НАН кадравага чыноўніка Міхаіла Мясніковіча, які прайшоў амаль усе ступені службовай лесвіцы, але не працаваў у навуковай сферы.

Вайтовіч, хоць і наіўна, але ж спадзяваўся, што дэкрэт №25 будзе адменены. Пра гэта ён заявіў у інтэрв'ю «Советской Белоруссии» ў студзені 2002 года з нагоды пяцігадовага юбілею Савета Рэспублікі. Пры гэтым ён прывёў у прыклад знакаміты дэкрэт №40, які прадугледжваў магчымасць дасудовай канфіскацыі маёмасці фізічных і юрыдычных асоб у выпадку нанясення імі шкоды дзяржаве і які быў адменены 13 лістапада 2001 года.

Аднак падзеі разгортваліся ў іншым накірунку. 5 сакавіка 2002 года Лукашэнка выдаў дэкрэт №7 аб удасканаленні дзяржаўнага кіравання ў навуковай сферы, згодна з якім Акадэмія навук падпарадкоўвалася прэзідэнту Рэспублікі Беларусь. 14 лістапада 2002 года «сенатары» пачалі разглядаць дэкрэты №25 і №7, каб прыняць іх да ведама. Вайтовіч выступіў з рэзкай крытыкай дэкрэта №25, указваючы, што ён рыхтаваўся ў абсалютнай таямніцы ад навуковай супольнасці, а таму стаў для яе сапраўдным шокам.

Па словах Вайтовіча, Акадэмія навук і яе рэсурсы — сапраўдная нацыянальная бяспека краіны, таму ўводзіць такія метады кіравання ёй недапушчальныя. Крытычна ацэньваючы прамову новага кіраўніка НАН Міхаіла Мясніковіча, старшыня Савета Рэспублікі прывёў лічбы: з моманту прыняцця дэкрэта №25 прайшло больш за год, аднак колькасць навуковых публікацый і патэнтаў на вынаходніцтвы ў Акадэміі навук рэзка знізілася пры павялічэнні яе штатаў у выніку рэарганізацыі ў 1,6 разу. Вайтовіч звярнуў увагу на гаротны стан вышэйшай адукацыі ўвогуле, калі 40% выпускнікоў («лучшие люди») беларускіх ВНУ жадаюць з'ехаць за мяжу. На гэта эмацыйна адрэагаваў Мікалай Чаргінец, які заклікаў Мясніковіча «удержать нашу молодежь».

Напрыканцы Вайтовіч заявіў, што акадэмічная супольнасць негатыўна паставілася да нападаў на сваю ўстанову: «Вы знаете, академики спокойный народ, но если они дважды писали президенту в течение полугода, то, значит, дело плохо». Выступоўца паабяцаў, што дэкрэт №25 не падтрымае. Вынікі галасавання былі наступныя. З 45 зарэгістраваных «сенатараў» пры кворуме ў 33 чальцы Савета Рэспублікі, «за» прагаласавалі 38, «супраць» — 3 і не галасавалі — 4. Дэкрэт №7 фактычна не абмяркоўваўся і быў прыняты да ведама: «за» — 42, «супраць» — 1 (хутчэй за ўсё, Вайтовіч), не галасавалі — 2.

Чаканні Вайтовіча наконт дэкрэта №25 усё ж спраўдзіліся. Гэты акт быў адменены ўказам Лукашэнкі №56 ад 3 лютага 2003 года «Аб некаторых пытаннях Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі». Аднак НАН так і засталася пад кантролем выканаўчай улады.

**Цярпенне Лукашэнкі скончылася, калі Вайтовіч пачаў разважаць пра немагчымасць трэцяга прэзідэнцкага тэрміну для адной і той жа асобы, а таксама выказаўся супраць закрыцця Беларускага гуманітарнага ліцэя, якое адбылося 25 чэрвеня 2003 года**



Урал Латыпаў, кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у 2001–2004 гадах

### Быў «за», стаў «супраць»

З вясны 2003 года адносіны Вайтовіча і Лукашэнкі імкліва псаваліся. 16 красавіка 2003 года на пасяджэнні сёмай сесіі Вайтовіч асмеліўся паставіць на галасаванне пытанне аб адмене прэзідэнцкага дэкрэта №23 ад 9 верасня 2002 года, датычнага падаходнага падатку з фізічных асоб.

Справа ў тым, што шэраг «сенатараў», у прыватнасці, эканаміст Тацццяна Быкава, заўважылі ў дакуменце істотныя недахопы. Напрыклад, адсутнасць нормы ад выплаце падаходнага падатку асобамі, якія былі маладзейшыя за 18 гадоў і інш. Большасць чальцоў Савета Рэспублікі, страхуючыся і следуючы залатому правілу «divide et impera», абвінавацілі ва ўсім не персанальна Лукашэнку, а Савет Міністраў (праект дэкрэта рыхтаваў Мінюст).

Па словах старшыні камісіі Савета Рэспублікі па сацыяльных пытаннях Анатоля Новікава, «проблема в том, что Совет Министров и министры не хотят знать мнение парламентариев или хотя бы профильной комиссии». Міхаіл Аўласевіч, канстатаваўшы дэкрэт як «удар по президенту», прапанаваў прыняць «неполитизированное решение»: дэкрэт прыняць да ведама, аднак некаторыя прапановы накіраваць Лукашэнку. Ініцыятыва Вайтовіча не знайшла падтрымкі сярод калегаў: з 56 зарэгістраваных чальцоў Савета Рэспублікі толькі 9 прагаласавалі «за» («супраць» — 32, не галасавалі — 15).

29 мая 2003 года Вайтовіч раскрытыкаваў праект закона аб дзяржаўнай службе: маўляў, стаж падчас працы ў Савеце Міністраў налічваецца ў любы час, а вось стаж працы ў Вярхоўным Савеце 12 і 13 склікання і ў Нацыянальным сходзе — толькі ў перыяд працы на прафесійнай аснове. У выніку за закон прагаласавалі 49 «сенатараў» і 1 — «супраць».

30 чэрвеня 2003 года пры закрыцці сёмай сесіі Савета Рэспублікі другога склікання Вайтовіч адзначыў, што ў парламента «нет никаких своих центров: ни аналитических, ни законопроектных».

Цярпенне Лукашэнкі скончылася, калі Вайтовіч пачаў разважаць пра немагчымасць трэцяга прэзідэнцкага тэрміну для адной і той жа асобы, а таксама выказаўся супраць закрыцця Беларускага гуманітарнага ліцэя, якое адбылося 25 чэрвеня 2003 года.

### Адстаўка

Вынікі галасавання па датэрміновым спыненні паўнамоцтваў Аляксандра Вайтовіча. Крыніца: Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь.

Лукашэнка вырашыў прыбраць Вайтовіча ў самы бяспечны з палітычнага пункту погляду перыяд — летам. На нечарговай восьмай сесіі Савета Рэспублікі другога склікання, на якой разглядалася пытанне аб датэрміновым спыненні паўнамоцтваў Вайтовіча, зарэгістравалася рэкордная — 58 — колькасць «сенатараў». Пасяджэнне сесіі вёў Міхаіл Аўласевіч, які без ваганняў дыстанцыяваўся ад свайго начальніка.

Некаторыя парламентарыі выказалі думку наконт таго, што Вайтовічу не трэба даваць слова. Аднак здаровы сэнс перамог: з 54 «сенатараў», якія ўзялі ўдзел у галасаванні, толькі 8 выказаліся супраць.

Аляксандр Вайтовіч не стаў палітызаваць свой выступ: ён быў кароткім, ёмістым і добразычлівым.

Пасля выступу кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта Урал Латыпаў, які заявіў, што адкліканне Вайтовіча — прынцыповае рашэнне, бо старшыні Савета Рэспублікі ўжо 65 гадоў. Латыпаў спаслаўся на прыняты закон аб дзяржаўнай службе. Аднак, здаецца, былы чэкіст і сам разумеў усю недарэчнасць сітуацыі, бо ў законе нічога не гаварылася пра кіраўніцтва Савета Рэспублікі. Да таго ж, «сенатару» Мікалаю Чаргінцу споўнілася 65 гадоў яшчэ раней, але адклікаць якога ніхто не збіраўся.

Таму Латыпаў распавёў сенатарам пра логіку рашэнняў Лукашэнкі. Па словах, Урала Рамдракавіча, старшыня Савета Рэспублікі заўсёды павінен раўняцца на курс кіраўніка краіны, а Вайтовіч «не всегда этому золотому правилу следовал». Латыпаў прывёў прыклад Расіі, дзе кіраўнікі Федэральнага сходу — не з каманды Пуціна, аднак ніколі не выказваюцца супраць курса дзяржавы. Кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі таксама распавёў, што з Вайтовічам былі размовы наконт добраахвотнага зыходу, але той адмовіўся.

Вынікі галасавання былі наступныя. З 58 зарэгістраваных «сенатараў» 56 падтрымалі адкліканне Вайтовіча і 2 не галасавалі.

### Наступны і лагодны

Аб тым, што адстаўка Аляксандра Вайтовіча планавалася загадзя, сведчыць апаратыўнае абранне яго пераемніка. Ім аказаўся былы ўрадавы кіраўнік Генадзь Навіцкі. Прадстаўляючы кандыдатуру Навіцкага, Латыпаў сказаў наступнае: «Когда Совет Республики будет возглавлять человек, которому президент полностью доверяет, то Совет Республики, я думаю, будет работать намного эффективнее».

Сапраўдныя панегірыкі Навіцкаму прамовілі Павел Шыпук, Мікалай Чаргінец і Барыс Батура.

Вельмі паказальны быў выступ Навіцкага. Па-першае, ён выявіў тып чыноўніка, які цалкам залежыць ад Лукашэнкі: «Премьер-министр — это наконечник бура, который надо чаще менять». Па-другое, Навіцкі, сам таго не ведаючы, падкрэсліў другасны стан свайго новага ведамства: «Работа сенатора — это тыл».

«Справа Вайтовіча» паказальная па некалькіх момантах. Па-першае, прэзідэнцкая ўлада ў выніку небяспекі выкарыстоўвала любыя захады для нейтралізацыі палітычных праціўнікаў. Па-другое, думкі пра тое, што нешта можна палепшыць у рамках адбудаванай Лукашэнкам мадэлі, наіўныя. Патрэбны сістэмныя змены. І, па-трэцяе, «справа Вайтовіча» зможа стаць добрай нагодай вывучэння фонду 1534 (Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь) Савета Рэспублікі, які, нягледзячы на свой фармальна высокі афіцыйны статус, з'яўляецца «terra ingognita» для грамадскасці і для даследчыкаў.

**З вясны 2003 года адносіны Вайтовіча і Лукашэнкі імкліва псаваліся. 16 красавіка 2003 года Вайтовіч асмеліўся паставіць на галасаванне пытанне аб адмене прэзідэнцкага дэкрэта №23 ад 9 верасня 2002 года, датычнага падаходнага падатку з фізічных асоб**


Міхаіл Мясніковіч — прэзідэнт НАН Рэспублікі Беларусь у 2001–2004 гадах

Фота www.sputnik.by

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТУРКМЕНІСТАН. Бердымухамедаў стаў Рэмба

Туркменскі кіраўнік да ўсіх сваіх шматлікіх талентаў (паэт, музыка, літаратар) дадаў яшчэ і талент спецназаўца. Днямі ў эфіры дзяржаўнага туркменскага тэлеканала паказалі, як Гурбангулы Бердымухамедаў, экіпіяваны як сапраўдны спецназавец, праводзіць своеасаблівы «курс маладога байца» для прадстаўнікоў сілавых структур. Як сказаў дыктар, урок «армейскага лікбезу» ад першай асобы краіны адбыўся падчас ваенных вучэнняў пад Ашхабадам. Прэзідэнт асабіста прадэманстраваў кіраўнікам сілавых ведамстваў, як трэба ўжываць зброю розных тыпаў, трапна страляць, і нават кідаць нажы ў ворага. Генералы, пабачыўшы такі ўзровень вайсковага мастацтва, не паспявалі пляскаць у ладкі. Цікава, што ролік, які, хутчэй, нагадвае трэйлер фільма пра прыгоды Рэмба, выклікаў захапленне сярод крытыкаў Пуціна. Яны спадзяюцца, што Бердымухамедаў, які знаходзіцца ў выдатнай спартыўнай форме, рана ці позна кіне выклік кіраўніку Расіі.

**Паводле туркменскай прэсы**

### УКРАІНА. Сталіцу — у Чарнобыль!

Цікавую грамадскую рэакцыю выклікала ідэя ўкраінскага апазіцыйнага дэпутата Міхаіла Добкіна перанесці сталіцу Украіны. Сваю прапанову, якая была агучаная падчас аднаго з інтэрв'ю, дэпутат аргументаваў тым, што кіеўская інфраструктура не адпавядае выклікам сталіцы і мае кепскую энергетыку. На думку дэпутата, сталіцу трэба вярнуць у Харкаў (ён быў сталіцай савецкай Украіны ў 1919–1934 гадах). У адказ на словы дэпутата грамадскасць Харкава літаральна паўстала. Шмат мясцовых аўтарытэтаў выступілі супраць ідэі Харкава як сталіцы. Больш за тое, як бачна па інтэрнэт-форумах, не выказваюць жадання стаць жыхарамі сталіцы і людзі ў іншых гарадах. Культуролагі лічаць, што прычынай такога феномену стаў досвед Кіева, які атакуюць правінцыялы ў пошуках працы. Як следства, за гады незалежнасці профіль сярэднестатыстычнага кіяўляніна стаў больш маргінальным. У гэтым плане нечакана вялікую папулярнасць атрымала ідэя перанесці сталіцу ў Прыпяць — горад каля Чарнобыльскай АЭС, адкуль усё насельніцтва было эвакуяванае пасля выбуху на станцыі.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Кінафальшыўка пад назвай «Дзюнкерк»



Выхад фільму «Дзюнкерк» пра эвакуацыю брытанскіх войскаў з акружэння ў Францыі, як і чакалася, нарабіў шмат вэрхалу. Гледачы і спецыялісты разам пачалі шукаць на экране розныя памылкі і няправільныя акцэнты. Левая прэса Брытаніі, напрыклад, незадаволеная тым, што героі на экране не ўздымаюць пытання, хто ж вінаваты ў тым, што яны трапілі ў «кацёл». Не ў захапленні і французы. На іх думку, аўтары «Дзюнкерку» недастаткова асвятлілі той факт, што французы актыўна дапамагалі эвакуацыі. Не менш гучна выказваюць сваю незадаволенасць феміністкія арганізацыі: ім не падабаецца татальная адсутнасць на экране жанчын, якія ў той час таксама змагаліся на фронце. Аднак рэкардсменамі крытыкі сталі нацыянальныя меншасці Брытаніі. На старонках выдання «The Guardian» палічылі, што больш за палову тых, хто знаходзіліся ў Дзюнкерку, мелі азіяцкае або афрыканскае паходжанне. Такая халодная рэакцыя на фільм відавочна зніжае шанцы стваральнікаў карціны атрымаць «Оскар». Пасля прэм'еры кінакрытыкі лічылі, што фільму прэмія гарантаваная.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Хіт-парад нямецкага сепаратызму

Нямецкі інстытут вывучэння грамадскай думкі YouGov даследаваў сепаратысцкія настроі ў нямецкіх землях. На першым месцы апынулася Баварыя, дзе больш за ўсіх сімпатызуюць ідэям незалежнасці. Гэта амаль кожны трэці жыхар. Пры гэтым 18 працэнтаў баварцаў знаходзяць ідэю незалежнасці «безумоўна слушнай», а яшчэ 14 працэнтаў, хоць і асцярожней, але таксама выступаюць «за». «Ідэя, хутчэй, слушная», лічаць яны. Тут ужо паўстаў нават тэрмін «Bayxit» — па аналогіі з «Brexit» брытанцаў, якія выйшлі з Еўрапейскага саюза. На другім месцы па колькасці аматараў незалежнасці — землі Саар і Цюрынгія, а на трэцім — Саксонія і Мекленбург — Пярэдняя Памеранія. Менш за ўсё імкнуцца да самастойнасці Ніжняя Саксонія, Рэйнланд-Пфальц і Шлезвіг-Гальштэйн. Нягледзячы на адносную папулярнасць сепаратызму, пакуль сур'ёзнай пагрозы нямецкаму адзінству ён не нясе.

**Паводле нямецкай прэсы**




Фота www.olx.ua

# Вострая брама супярэчнасцяў

*Алег НОВІКАЎ*

**Шмат ліберальных палякаў лічаць, што спрэчка паміж Вільняй і Варшавай вакол выявы Вострай брамы на новых польскіх пашпартах — не проста выпадковасць, а правакацыя з нейкай глабальнай мэтай.**

У вядомым вершы Уладзіміра Маякоўскага пра «сярпаста-малаткасты» пашпарт апісваецца ў тым ліку і стаўленне еўрапейскіх памежных службоўцаў да польскіх дакументаў. У 1920-я гады, калі быў напісаны твор, Польшча толькі аднавіла незалежнасць, і пашпарт паляка выклікаў вялікі інтарэс. Падаецца, падобную рэакцыю будуць выклікаць і новыя польскія пашпарты, якія плануюць выдаць у наступным годзе да стагоддзя аднаўлення незалежнасці. Яны ўжо зараз справакавалі сапраўдны міжнародны скандал.

Усё праз выявы на старонках дакументу, дзе будуць змешчаны важныя для Польшчы гістарычныя асобы і матывы. Сярод іх — Мемарыял арлянят у Львове (яго выяву ўжо зацвердзілі) і Вострая брама ў Вільні (гэты варыянт выстаўлены на інтэрнэт-галасаванне).

Як і папярэджвала мясцовая ліберальная прэса, у Кіеве і Вільні пабачылі ў малюнках замах на суверэнітэт. Аж да таго, што літоўскі МЗС выклікаў польскага дыпламата. Калі верыць СМІ, аналагічны пратэст рыхтуе і ўкраінская дыпламатыя.

Што тычыцца Вільні і Кіева, іх матывацыя больш-менш зразумелая. Кіеўскія ўлады ва ўмовах канфлікту на Усходзе робяць стаўку на нацыяналістычную рыторыку. Што тычыцца Літвы, то наяўнасць на цяперашняй Віленшчыне актыўнай польскай меншасці дае літоўскім палітыкам глебу, каб спекуляваць на пагрозе сепаратызму.

Частка польскага палітыкуму сапраўды настальгуе па часах Другой Рэчы Паспалітай, калі Вільня была польскай. Аднак відавочна, што зараз не лепшы час, каб правакаваць Літву.

Польскі ўрад, які фармуе партыя «Права і Справядлівасць» (PiS) на сёння ўжо паспеў моцна пасварыцца з Брусэлем, дзе пайшлі на беспрэцэдэнтны крок: праз нежаданне Варшавы прымаць імігрантаў запушчаная афіцыйная працэдура следства. Вынікам можа стаць накладанне на Польшчу буйных грашовых штрафаў, а таксама пазбаўленне яе права голасу ў Савеце ЕС. Але нават складанасці з ЕС — толькі вяршыня айсбергу. У Берліне негатыўна каментуюць свежую ідэю польскага МЗС патрабаваць у Германіі рэпарацыі за Другую сусветную вайну. Нарэшце, прыняты ў чэрвені польскі закон пра знос помнікаў савецкім жаўнерам раз'юшыў расійскіх ура-патрыётаў.

«Пра адносіны з суседзямі лепш не казаць. Гэта амаль 1939 год, калі ў нас ёсць два ворагі — Расія і Германія. Плюс Літва, з якой, як перад вайной, былі дрэнныя стасункі», — апісвае актуальны знешнепалітычны стан ліберальны штотыднёвік «Newsweek».

Феерычная нелагічнасць крокаў польскай дыпламатыі спараджае самыя неверагодныя тэорыі. Хаця хапае і тых, хто тлумачыць гэта ментальнымі забабонамі цяперашніх польскіх міністраў, якія, маўляў, жывуць нейкімі гістарычнымі міфамі і неадэкватнымі рэаліямі.

Але ёсць і цікавейшыя версіі. Напрыклад, такая: Яраслаў Качыньскі, кіраўнік PiS, наўмысна ідзе на міжнародную ізаляцыю краіны ад заходніх дэмакратый, каб пачаць будаўніцтва новай мадэлі дзяржавы, для якой будзе характэрны больш высокі статус царквы. Аматары гэтай версіі ў якасці доказаў узгадваюць і цяперашнюю адносную гарманізацыю адносінаў Польшчы з Беларуссю, дзе таксама не вераць у тое, што дэмакратыя — універсальная формула дзяржаўнага ладу. Хаця хапае на польскіх форумах і тых, хто лічыць, што тэрытарыяльны спрэчкі Варшавы з Мінскам — справа часу.

Наступная версія — Польшча фарсіруе спрэчкі з суседзямі, паколькі атрымала ад ЗША, дзе палякаў разглядаюць у якасці асноўнага еўрапейскага партнёра, нейкую інструкцыю. Паводле яе, Польшча павінна працаваць на развал Еўрапейскага саюза, які, нягледзячы на безліч унутраных праблемаў, паступова становіцца глабальным канкурэнтам Вашынгтона.

Не абышлося і без гіпотэз пра шпіёнаў. Пішуць, што Качыньскі — агент Масквы. У Крамлі, маўляў, яму даручылі пасварыць Варшаву з заходнімі сталіцамі. Навошта? Для таго, каб пасля Еўропа, якой надакучылі выбрыкі Польшчы, дала Расіі карт-бланш вярнуць краіну пад свой пратэктарат. За сваю абыякавасць немцы, быццам бы, атрымаюць Сілезію і Гданьск.

**Феерычная нелагічнасць крокаў польскай дыпламатыі спараджае самыя неверагодныя тэорыі. Хаця хапае і тых, хто тлумачыць гэта ментальнымі забабонамі цяперашніх польскіх міністраў, якія, маўляў, жывуць нейкімі гістарычнымі міфамі і неадэкватнымі рэаліямі**

Вось такі спектр думак і версій. Застаецца дадаць, што, акрамя пералічаных тэорый, у Польшчы агучваюцца і прапановы, як затармазіць правакацыйную ініцыятыву PiS наконт новых пашпартоў. На думку некаторых палякаў, трэба калектыўна прапанаваць МЗС размясціць на ўсіх старонках новага пашпарту партрэт Яраслава Качыньскага. Паводле аўтараў ідэі, у такім выпадку ў ведамстве адразу забудуць пра Вострую браму і львоўскі мемарыял.

# Размаўляйце па-славянску!

Алег НОВІКАЎ

**Ці мае перспектыву прадстаўлены нядаўна чэшска-харвацкі праект агульнай мовы для ўсіх славянскіх народаў?**



Распаўсюджанасць славянскіх моваў

У свеце жывуць 300–350 мільёнаў славян. Усе яны размаўляюць на сваіх мовах, якія, тым не менш, маюць граматычнае і лексічнае падабенства. І яно не дзіўнае, паколькі ўсе славянскія мовы фармаваліся на базе агульнаславянскага прататыпу, які, калі верыць лінгвістам, існаваў прыкладна ў VI стагоддзі. Пасля славянскі протанарод падзяліўся на шматлікія этнасы, і кожны з іх пачаў размаўляць на сваёй мове, што з часам былі кадыфікаваныя.

Ідэя адраджэння агульнай славянскай мовы ўпершыню паўстала сярод паўднёваславянскіх народаў, якія на працягу доўгага часу былі падпарадкаваныя туркам-асманам. У другой палове XVII стагоддзя харвацкі ксёндз Юры Крыжаніч накіраваўся ў Расію, каб пераканаць рускага цара ў неабходнасці палітычнага і рэлігійнага аб'яднання ўсіх славян, якія будуць размаўляць на агульнай мове: так званы «ruski jezik».

У Маскве тады падобных ідэй не зразумелі, а сам Крыжаніч быў адпраўлены ў Сібір. Але інтарэс да агульнай славянскай мовы ў расійскай адміністрацыі абудзіўся ў XIX стагоддзі, калі ў славян Усходняй і Паўднёвай Еўропы пачаўся працэс нацыянальнага адраджэння, і, адпаведна, ідэя агульнаславянскай каардынацыі. Некаторыя лічылі, што фундаментам славянскага адзінства можа стаць агульная мова.

Улады Расійскай імперыі лічылі, што такая мова ў выглядзе рускай даўно існуе. Прынамсі, на сусветным сходзе славянскіх філолагаў і гісторыкаў, які праходзіў у Пецярбургу ў 1904 годзе, панавала менавіта такая думка. Пры гэтым не хавалася, што агульнаславянская (чытай, руская) мова павінна была спрыяць фармаванню на аскепках Аўстра-Венгрыі і Турцыі нейкай прарасійскай славянскай дзяржавы. Праўда, сярод некаторых еўрапейскіх панславістаў існавала і альтэрнатыўная прапанова — стварыць штучную агульнаславянскую мову.

Пасля рэвалюцыі 1917-га пра агульнаславянскую мову ў Расіі забыліся: бальшавікі, якія марылі пра сусветную рэвалюцыю, глядзелі на рэчы не рэгіянальна, а глабальна. Магчыма таму ў СССР назіралася фенаменальная мода на эсперанта — штучную мову, якая паўстала на базе раманскіх і нямецкіх гаворак. У першыя часы савецкай улады нават гучала ідэя адмовы ад кірыліцы.

Пазней, па ходзе аднаўлення Сталіным расійскай імперскай традыцыі, нефармальна паўстаў тэзіс, што мовай усіх прагрэсіўных людзей на планеце павінна быць мова, на якой размаўляў Ленін. Так ці інакш, час для фармавання агульнаславянскай мовы быў страчаны. Ва ўсіх славянскіх краінах на сярэдзіну XX стагоддзя паўсталі літаратурныя мовы, і кожны славянскі народ лічыў іх важнай часткай сваёй ідэнтычнасці. Калі палеміка наконт моўнай інтэграцыі славян і ўзнікала, дык выключна на старонках выданняў, прызначаных для акадэмічнай публікі.

І вось у гісторыі спробаў стварэння агульнаславянскай мовы нечаканы віраж. Напачатку лета з'явілася інфармацыя пра тое, што прафесар аднаго з пражскіх універсітэтаў Войтэх Мерунка прыдумаў агульную славянскую мову. Яму дапамагаў харват Эміль Херсак. Прэзентацыя правілаў новай мовы адбылася ў ліпені.

Абодва вынаходнікі агульнаславянскай мовы паходзяць з прыхільнікаў эсперанта. Таму галоўны акцэнт, як у эсперанта, робіцца не на моўны канон, а на камунікацыю і, перш за ўсё, у інтэрнэце. Фактычна па прынцыпе эсперанта будуюцца і іншыя правілы «новаславянскай мовы» — так называюць свой прадукт яго аўтары. Пры гэтым вынаходнікі агульнаславянскай мовы таксама лічаць, што яна не павінна быць эрзацам існуючых моваў у славянскіх краінах.

Дарэчы, тандэм Мерунка — Херсак кажа, што стымулам для стварэння новай мовы стала пачуццё сораму за тое, што тыя ж балгары і чэхі сёння размаўляюць паміж сабой па-англійску, хаця балгарская і чэшская мовы вельмі блізкія.

Пакуль рэакцыя наконт «славянскага эсперанта» супярэчлівая. У Расіі, як і трэба было чакаць, вельмі здзівіліся таму, што ў падмурак агульнаславянскай мовы не закладзеная руская. Украінцы быццам бы і не супраць эксперыментаў з новай мовай, аднак патрабуюць, каб рускую абавязкова лічылі ўкраінскай, паколькі да прыбыцця ў Маскву кіеўскіх святароў там, быццам бы, размаўлялі на цюркска-мангольскай трасянцы.

Цікавыя ў гэтай гісторыі і асобы стваральнікаў «навамовы». Мерунка і Херсак — дастаткова маргінальныя фігуры. Па сутнасці, гэта нікому не вядомыя аматары эсперанта, якіх хапае ў кожнай краіне Еўропы.

Тым не менш, іх праект агульнаславянскай мовы асвятляюць амаль усе вядучыя сусветныя СМІ. Ці стаіць нешта за іх незвычайнай ініцыятывай, невядома. Але нельга не заўважыць, што славяне пасля выхаду Вялікабрытаніі са складу ЕС колькасна ператвараліся ў самую вялікую этнічную групу ў Еўрасаюзе — прыкладна 32 працэнты супраць 31 працэнта прадстаўнікоў раманскіх народаў і 27 працэнтаў германскіх.



## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Ірма Інашвілі

Лідарка апазіцыйнай грузінскай партыі «Альянс патрыётаў Грузіі» і яе структура да дзявятай гадавіны расійска-грузінскай вайны распаўсюдзілі ўльтыматыўны відэазварот да ўладаў краіны, у якім запатрабавалі неадкладна пачаць дыялог з Масквой у межах фармату «Грузія—Расія—NATO», скасаваўшы ў тым ліку закон «Аб акупацыі».

На думку патрыётаў, неабходна тэрмінова распачаць кантакты з Абхазіяй і Паўднёвай Асеціяй, каб спыніць небяспечны працэс. У Абхазіі, напрыклад, падрастае другое пакаленне, якое пра Грузію не ведае нічога, акрамя таго, што гэта варожая краіна. Такое становішча ставіць крыж на марах аднаўлення адзінай Грузіі. Паводле патрыётаў, альтэрнатывай можа стаць асцярожны дыялог, які забяспечыць Грузіі больш пазітыўны імідж сярод тых жа маладых абхазаў.

Іншыя партыі Грузіі пакуль трымаюць дыстанцыю ад ініцыятывы патрыётаў, а хтосьці нават пабачыў у прапанове «руку Масквы». Некаторыя таксама сцвярджаюць, што Інашвілі і яе аднапартыйцы агучылі свой праект па сакрэтнай замове ўраду, які намагаецца зняць у грамадстве табу з тэмы прызнання Сухумі і Цхінвала.

Сапраўды, ва ўрадавай партыі «Грузінская мара» не выключаюць, што нейкія часткі закона «Аб акупаваных тэрыторыях» могуць быць перагледжаныя. У сваю чаргу, нацыяналісты абяцаюць закон аб забароне кантактаў грузінскіх і расійскіх палітыкаў. Нарэшце, трэба дадаць, што ў выпадку невыканання ўльтыматуму лідары патрыётаў абяцаюць з верасня пачаць акцыі пратэсту, і нават галадоўкі ў парламенце.



### Поль Кагамэ

Перамогу Кагамэ, які ў трэці раз з 1994 года быў пераабраны на пасаду прэзідэнта Руанды, можна лічыць «элегантнай» — ён атрымаў 98 працэнтаў галасоў выбаршчыкаў. Гэта адбывалася на фоне татальнага ціску на апазіцыю (аднаго з апазіцыянераў раней увогуле знайшлі без галавы). Між тым, Захад і большасць насельніцтва, падаецца, вельмі задаволеныя вынікамі галасавання.

На Захадзе і ў Руандзе Кагамэ карыстаецца рэпутацыяй героя, які спыніў генацыд 1994 года, калі радыкалы з этнічнай групы хуту забілі мільён прадстаўнікоў этнасу тутсі, а яшчэ 2 мільёны прымусілі эміграваць. Стабільнасць рэжыму Кагамэ гарантуе і так званы «руандзійскі цуд» — вынікі эканамічных рэформаў, якія ўрад праводзіць па рэцэпце Сінгапуру і Паўднёвай Карэі.

Хаця апошнім часам тэмпы эканамічнага росту не такія высокія, агульны малюнак някепскі. У Руандзе забяспечылі масавы доступ да інтэрнэту, будуюцца дарогі і аб'екты інфраструктуры. Улады таксама змагаюцца з карупцыяй як сярод бізнесоўцаў, так і чыноўнікаў. Фактычна, на аўтарытарызм у Руандзе сёння звяртаюць увагу толькі праваабаронцы ды эколагі. У адказ Кагамэ выстаўляе сябе актыўным прыхільнікам гендарнай роўнасці, пра што сведчыць самая вялікая ў Афрыцы квота жанчын у парламенце — 63 працэнты.

### Дыега Марадона



Легендарны аргенцінскі футбаліст вырашыў прыйсці на дапамогу Нікаласу Мадуры. «Я салдат баліварскай рэвалюцыі», — напісаў экс-футбаліст у сваім Facebook.

Падтрымка з боку Марадоны для Мадуры яўна не лішняя, бо яго рэжым знаходзіцца ў фазе цяжкага крызісу. На днях Канстытуцыйная асамблея, якая складаецца з чавістаў, распусціла парламент, дзе большасць належыць апазіцыі. Парламентары, у сваю чаргу, заявілі, што працягнуць працаваць падпольна, а Мадуру ў якасці прэзідэнта больш не прызнаюць. Пры гэтым большасць краін Захаду і Амерыкі ў тым інстытуцыянальным канфлікце лічаць легітымным менавіта парламент, а не Канстытуцыйную асамблею, выбары ў якую, быццам, былі сфальсіфікаваныя.

Цяжка сказаць, наколькі аўтарытэт Марадоны прымусіць сусветную супольнасць змяніць думку. Пакуль што ён, хутчэй, раз'юшыў тых спартоўцаў, якія сімпатызавалі венесуэльскай апазіцыі. Некаторыя футбалісты зорнага складу зборнай Аргенціны 1980-х гадоў пасварыліся з Дыега праз яго падтрымку «тырана» Мадуры. Што тычыцца самой Венесуэлы, дык там стартуе рэгіянальная выбарчая кампанія, выбары запланаваныя на снежань. Для Мадуры яны вырашаць вельмі шмат, бо частка апазіцыі не хоча легітымізаваць рэжым удзелам у выбарах, а байкот дазваляе яму паставіць сваіх людзей на месцах і стабілізаваць сітуацыю. Але, з улікам глыбіні крызісу, у краіне да снежня можа адбыцца ўсё што заўгодна.

# Чалавек: падарункі Праметэя

Андрэй ВАШКЕВІЧ,
Алесь КІРКЕВІЧ

**Разам з гісторыкам Андрэем Вашкевічам мы вырашылі паразважаць на досыць нетрывіяльную тэму і выйсці за геаграфічныя межы Беларусі ды храналагічныя рамкі гісторыі нашай дзяржаўнасці і этнасу.**

Выглядае на тое, што для чалавецтва ў цэлым час зараз пралятае з неймавернай хуткасцю, а прагрэс набірае ўсё большыя абароты. Тычыцца гэта і ведаў па гісторыі ўзнікнення чалавека як віду, і абставінаў яго сталення і экспансіі на Зямлі. Разам з тым, базавыя пытанні, кшталту: «Хто мы? Адкуль? Куды ідзем?» — застаюцца актуальнымі і дагэтуль.

### Чалавецтва, як куб з бокам у 2 кіламетры

Мы любім ацэньваць гісторыю з пункту гледжання прагрэсу. Гісторыя, маўляў, гэта паступовы шлях ад першабытнасці і крамянёвых наканечнікаў да развітых тэхналогіяў і палётаў у космас. Прычым такі варыянт развіцця прадугледжваўся і хрысціянамі, якія верылі, што людзі развіваюцца ды спасцігаюць Бога, і іх апанентамі, якія ў Бога не верылі, — атэістамі і камуністамі. Што ж такое прагрэс для асобна ўзятага чалавека і для людзей як папуляцыі?

Калі глядзець на чалавека як на від жывёлаў, што насяляюць Зямлю, то ён неймаверна паспяховы. Сёння на Зямлі, як вядома, жыве 7 мільярдаў чалавек, а іх бліжэйшых суродзічаў — гарыл, арангутанаў і г.д. — існуе ў свеце па некалькі тысяч. Напрыклад, горных гарылаў засталося не больш за тысячу, а максімальна іх ніколі адначасова не жыло больш за 10 тысяч. Калі не браць пад увагу мурашоў і розную жамяру, якія складаюць асноўную долю ў біямасе жывога на Зямлі, то людзі колькасна супернічаюць толькі з такімі жывёламі, як куры (прыкладна 25 мільярдаў), свінні, авечкі, каровы (прыкладна па 1 мільярду), а таксама мышы, пацукі, вераб'і і г.д. Як бачым, усе вышэйпералічаныя віды так ці інакш завязаныя на чалавеку, ім выведзеныя альбо спадарожнічаюць яму.

Калі казаць пра біямасу людзей, то атрымаецца ў выніку, нібыта, і не так шмат. Калі ўсе 7 мільярдаў чалавечых адзінак пакласці адну да адной, атрымаецца ўсяго толькі куб з даўжынёй аднаго боку ў 2 кіламетры. Біямаса мурашоў, калі правесці з імі такі ж эксперымент і стварыць з іх цэльцаў куб, апынецца ў дзясяткі, калі не ў сотні разоў большай.

Калі супаставіць чалавека з жывёлай ягоных памераў, воўкам, напрыклад, і ўявіць, што чалавек жыў бы ў «воўчых», то бок натуральных, умовах, то чалавецтва ніколі б не паднялася па-над лічбай у некалькі мільёнаў адзінак. Дык адкуль нас так шмат?

### На кончыку гістарычнай эпохі

3 мільёны гадоў (калі ўлічыць, што нашай Зямлі зараз прыкладна чатыры з паловай мільярды гадоў) — гэта вельмі мала: адна дзясятая працэнту ўсёй зямной гісторыі. Уявіце сабе, што калі б 3 мільёны гадоў таму на Зямлю прыляцелі іншапланецяне, хутчэй за ўсё, яны б назвалі самымі развітымі і перспектыўнымі жывёламі на зямлі пчол ды мурашоў — істот з высокай сацыяльнасцю і вялізнай колькасцю. Ва ўяўленні іншапланецян, імаверна, зямля стала б «Планетай мурашоў» у перспектыве. На чалавекападобных малпаў, якія бадзяліся па афрыканскіх саванах, наўрад ці б нехта звярнуў увагу.

Чалавек стаўся тым, кім ён ёсць, літаральна за апошнія 200 тысяч гадоў. Гэта кропля ў моры гісторыі Зямлі. Прычым, з гэтых 200 тысяч гадоў, ён усяго каля 10 тысяч займаецца земляробствам. І з гэтых 10 тысяч гадоў усяго толькі апошнія 300 гадоў мы можам казаць пра нейкае індустрыяльнае грамадства. І толькі недзе ў 2009 годзе колькасць людзей, якія жывуць у гарадах, зраўнялася з колькасцю тых, хто жыве ў вёсцы. То бок мы жывем на самым кончыку гістарычнай эпохі, якая сплюшчвае час, бо працэсы і змены ідуць ужо з неймавернай хуткасцю.

Самы яскравы таму доказ — колькасць людзей. Лічыцца, што на рубяжы нашай эры на зямлі жылі прыкладна 150 мільёнаў чалавек. Сёння — 7 мільярдаў. Да 2100 года можа быць прыкладна 10–11 мільярдаў. Зараз лічыцца, што тэмпы росту насельніцтва змяншаюцца, парабала ідзе на паніжэнне, але агульны рост усё адно пакуль вельмі хуткі. І тут два варыянты: альбо насельніцтва стабілізуецца на нейкай лічбе, а пасля колькасць пачне паступова зніжацца, альбо адбудзецца катастрофа, эпідэмія ці маштабная вайна, якая істотна скіне колькасць насельнікаў Зямлі да 2–3 мільярдаў чалавек. Магчыма, пры такім сумным раскладзе, чалавецтва як від наогул знікне — людзі для гэтага маюць шматлікія сродкі.



Кадр з фільму «Праметэй» Рыдлі Скотта

Лічыцца, што за ўсю гісторыю на Зямлі нарадзіліся і памерлі каля 100 мільярдаў чалавек: ад першага Homo sapiens да сённяшняга офіснага менеджара. Цікава, што ў кожную вытворчую эпоху змяшчалася прыкладна 10 мільярдаў чалавек. То бок 10 мільярдаў чалавек нарадзілася за эпоху першабытна-абшчыннага ладу, але сам гэты перыяд цягнуўся 190 тысяч гадоў. На эпоху Старажытнага свету прыпадае яшчэ 10 мільярдаў. Сярэднявечча — яшчэ 10 мільярдаў. Гэта ўсё вельмі ўмоўныя лічбы, але зараз неймаверна тое, што ў нас не некалькі пакаленняў перажываюць адну тэхналагічную эпоху, а цягам жыцця аднаго пакалення адбываецца змена некалькіх тэхналагічных эпохаў. Мозг і свядомасць чалавека не паспяваюць за зменамі, якія адбываюцца навокал.

**Чалавек стаў тым, кім ён ёсць, за апошнія 200 тысяч гадоў. Ён каля 10 тысяч гадоў займаецца земляробствам. І толькі апошнія 300 гадоў мы можам казаць пра нейкае індустрыяльнае грамадства**

### «Згублены рай»

Парадаксальна, але калі недзе 10 тысяч гадоў таму пачаўся пераход да земляробства, дык паляўнічыя і збіральнікі паводле ўзроўню жыцця жылі значна лепш і спакайней, чым іхныя нашчадкі земляробы. Чаму так? Бо чалавек залежаў ад ежы, якую мог здабываць. Калі чалавек жыў у кантэксце прыроды, для яго не было праблемай нешта ўпаляваць альбо злавіць. Калі рэсурс заканчваўся на адным месцы, можна было перайсці на іншае. Чалавек мінімальна абрастаў артэфактамі альбо сацыяльнай сістэмай. Племя, кола людзей, сярод якіх ён жыў, складала некалькі дзясяткаў чалавек, вялікае племя — хай сабе і сотню-дзве. Аазісы ў раёне Іерыхону на Блізкаўсходняй пустыні маглі пракарміць у сярэднім 150 збіральнікаў, якія лавілі дробную жывёлу, рыбу ды елі фігі з фінікамі. Атрымліваўся такі сабе «сад Эдэм».

Калі людзі пачалі ў некалькіх цэнтрах па ўсёй зямлі незалежна адно ад аднаго займацца земляробствам, вырошчваць рыс, проса, пшаніцу, бабовыя і іншыя, з пункту гледжання папуляцыі чалавека гэта было вельмі моцна і паспяхова. У тым самым аазісе каля вады маглі пракарміць ужо не 100 чалавек, а 1000.

Але з пункту гледжання якасці жыцця асобна ўзятага чалавека, гэта было страшэннае падзенне: «выгнанне з раю». Па-першае, жывёльная ежа стала экзотыкай, чалавек амаль не еў мяса. Па-другое, фактар дзяцей. У паляўнічых і збіральнікаў у сем'ях па 2–3 дзіцяці максімум. Абмежаванне колькасці дзяцей ідзе вельмі жорстка: сістэма табу, абмежаванне зносінаў, размаітыя сістэмы абортаў, ажно да дзетазабойства. Усё як у жывёлаў: калі буслы бачаць, што не могуць пракарміць бусляня, то наўпрост забіваюць і выкідаюць з гнязда.

У людзей жа, якія займаліся сельскай гаспадаркай, дзеці ператвараліся ў каштоўнасць, бо гэта — працоўныя рукі. Земляробства развівалася ў раёнах, дзе ад пачатку прынцыповае значэнне мелі ірыгацыйныя сістэмы і калектыўная праца. Узяць той жа Кітай: рыс дае па некалькі ўраджаяў за год, але патрэбная маса працоўных рук. Таму чым больш дзяцей, тым лепш. Такая стратэгія акурат і вяла да выбуховага росту насельніцтва.

Такім чынам, калі ўзяць старажытнаегіпецкага селяніна, які абрабляў зямлю, то ён знаходзіўся ў нашмат горшых умовах, чым яшчэ больш старажытны збіральнік ці паляўнічы, які жыў за некалькі тысяч гадоў да яго. Такі вось прагрэс.



Чарльз Фостэр. «Выгнанне з Раю»

### Анёл з вогненным мячом

Ніколі ў гісторыі не было такога, каб жылі сабе збіральнікі ды паляўнічыя, а пасля — раз! — ператварыліся ў земляробаў. Так бывае, бадай, толькі ў марксістаў ды ў напісаных паводле іх савецкіх падручніках. Гэтыя формы заўжды суіснавалі, наўпрост перамагалі і дамінавалі больш эфектыўныя. Нават сёння на зямлі жывуць і земляробы, і паляўнічыя, і веб-дызайнеры, якія працуюць у хмарачосах Нью-Ёрка альбо Сінгапура.

Калі казаць пра Еўропу, то 5 тысяч гадоў таму, у часы знакамітага Этцы, якога знайшлі замарожаным сярод Альпаў, тут яшчэ панаваў акурат змешаны тып працы: і паляванне, і земляробства. Прайшло некалькі пакаленняў, адбыўся дэмаграфічны выбух — і чалавек ужо не мог вярнуцца назад да палявання ды збіральніцтва, бо наўпрост не пракарміўся б. Адначасна, ад голаду ўжо маглі выміраць цэлыя тэрыторыі, чаго нельга сабе ўявіць з чалавекам-збіральнікам. Таму, паводле Старога Запавету, і няма дарогі назад, у сад Эдэм, перад якім «стаіць анёл з вогненным мячом».

Такім чынам, калі вяртацца да прагрэсу, то для чалавецтва як для супольнасці, прагрэс заўжды ёсць. А вось для дзіцяці, што памірала ў Міжрэччы ад голаду 3000 альбо 300 гадоў таму, прагрэсу не было: ён не надышоў. Калі глядзець на свет і чалавека з вышыні сённяшняга чалавека, падаецца, што мы перамаглі і далей рухаемся да новых вяршыняў. Але калі паглядзець на чалавека як на жывёлу, то бачым і іншы бок медаля.

Параўнайце карову і аднаго з апошніх белых насарогаў. Умоўная карова скажа: «Нас шмат, нас кормяць, мы перспектыўныя, а вы — насарогі — хутка ўсе памрэце». Але ніводзін насарог не прамяняў бы сваё жыццё на жыццё каровы. Бо насарог жыве 40 гадоў, ходзіць па лесе ці па саване, есць усялякую смакату. А карова жыве 6 месяцаў, сядзіць у загоне, а пасля яе забіваюць токам і разбіраюць на мяса. Ну і хто тут эвалюцыйна перамог? За кім прагрэс?

### Птушка Дадо і сумчатыя львы

Тое самае можна сказаць і пра чалавека. З пункту гледжання поспеху віду, колькаснага,

# і непазбежны прагрэс. Частка I

тэрытарыяльнага і інтэлектуальнага, чалавецтва разраслося да страшэнных памераў, яно паспяховае. Але з пункту гледжання нават асяроддзя, у якім жыве чалавек, гэта катастрофа. Бо развіваючы да непамернасці сваю колькасць, чалавек ідзе да знішчэння той пляцоўкі, у якой жыве, топіць свой уласны човен.

Напрыклад, нам у школе распавядалі, як чалавек рассяляўся па планеце, а ў розных закутках Зямлі жылі яшчэ рэдкія жывёлы: птушка моа, сумчатыя львы, гіганцкія ляніўцы, агромністыя каалы… Нам казалі, маўляў, на вялікі жаль, гэтыя жывёлы не дажылі да чалавека ўсяго пару тысяч гадоў — чалавек прыйшоў, а іх ужо не было. Таксама казалі і пра жывёлаў, якія былі знішчаныя чалавекам ужо ў гістарычны час, кшталту, птушкі Дадо, каровы Стэлера і г.д. Але зараз вучоныя даводзяць: усе жывёлы, што зніклі на працягу апошніх 150 тысяч гадоў — гэта жывёлы, знішчаныя чалавекам. прыгадаць і адваротны працэс: з Еўропы ў Амерыку завозяць кажаноў, хай нават у адзінкавых выпадках. Гэты кажан пераносіць грыбок, які яму не шкодзіць, затое амерыканскія кажаны ад яго выміраюць.

## Асуджаны на экспансію

Чалавек не толькі прыстасаваў свет пад сябе, але яшчэ і зрабіў яго страшэнна маленькім і аднастайным. Мы ідзем да таго, што Зямля пераўтвараецца ў цесную камунальную кватэру альбо ў ферму, дзе жывёл трымаюць толькі ў кароўніку на забой. Прыроду і клімат чалавек у такім ракурсе таксама перарабляе адно пад свае патрэбы. Пры гэтым, тонкія нітачкі біясістэмы вельмі складана нацягнутыя, таму, перацінаючы адну з іх, мы ніколі не ведаем, да чаго гэта прывядзе ў выніку.

Так, на сённяшнім этапе мы можам казаць, што працягласць жыцця чалавека павялічваецца.





Так выглядаў Этцы, які загінуў сярод Альпаў 5 тысяч гадоў таму

То бок чалавек ужо на працягу дзясяткаў тысячагоддзяў вядзе генацыд. Там, куды ён дабіраецца, ён усё вынішчае. Напрыклад, калі чалавек прыйшоў у Аўстралію 30 тысяч гадоў таму, там жылі каля 25 відаў вялікіх сумчатых жывёлаў. Але біясістэма настолькі крохкая, што нават калі забіваць па некалькі жывёлаў аднаго віду на пэўнай тэрыторыі цягам года, жывёла можа знікнуць. Таму сёння там засталіся адно кенгуру ды розная драбяза: яхідны, качканосы і г.д.

Зараз даведзена з абсалютнай дакладнасцю, што апошніх мамантаў знішчылі менавіта людзі ў раёне выспы Урангеля. Людзі, а не пацыпленне, вірус ці нешта там яшчэ. І гэтыя працэсы працягваюцца да сёння. Безумоўна, робіцца гэта па-іншаму. Напрыклад, у Беларусь прывозяць вузкапалага амерыканскага рака, каб ён разводзіўся лепш, а ён пераносіць чуму, якая забівае нашых мясцовых шыракапалых ракаў. Можна сказаць, што праз пару гадоў нашага мясцовага рака ўжо не застанецца. Можна З XVIII па XX стагоддзе мы адбілі ў смерці вельмі шмат гадоў. Умовы жыцця сталі лепшымі. Разам з тым, гэтыя нашы здабыткі вельмі дорага каштуюць планеце і навакольнаму асяроддзю.

Ці магло быць па-іншаму? Чалавек — экспансіўная істота, яму ўласціва пашыраць свае межы. Тады, магчыма, падобны вектар у развіцці заканамерны?.. Пэўна, так. На працягу эвалюцыі ў нас з'явілася занадта шмат магчымасцяў да пазнання свету і зносінаў між сабой: ад прамахаджэння і выкарыстання інструментаў да мовы і складаных сацыяльных зносінаў.

Жывёлы, у адрозненне ад чалавека, да экспансіі не схільныя. Яны схільныя акурат да эвалюцыйнай і папуляцыйнай нішы, якую яны ў пэўны момант займаюць. То бок, калі ёсць кліматычны момант і зручная тэрыторыя — жывёлы яе займаюць і там жывуць. Чалавек жа 150 тысяч гадоў таму наўпрост залез на вяршыню харчовага ланцужка і не спяшаецца гэта месца пакідаць. правілы: ёсць тэрыторыі, за якія яны канфліктуюць, яны страшэнна агрэсіўныя.

Казалі, напрыклад, што чалавек — адзіная жывёла, якая забівае для задавальнення. А вось і не. Вышэйзгаданыя шымпанзэ ладзяць паміж сабой войны, і занатаваныя нават выпадкі, калі адна група прыматаў цалкам вынішчала іншую ў выніку канфлікту. Па-чалавечы — гэта генацыд. І гэтую рысу мы таксама добра засвоілі.

Часам пытаюцца, чаму сёння мы не маем пераходных стадыяў ад малпы да чалавека? Бо чалавекападоныя малпы, якія засталіся ў свеце, жывуць на тых тэрыторыях і ў тых умовах, дзе ім добра. Гэта вельмі спецыялізаваныя жывёлы акурат для сваіх умоваў. Хоць тыя ж арангутаны, ці не самыя маладаследаваныя малпы, найразумнейшыя сярод іх. Ёсць факты, што некаторыя арангутаны нават лавілі рыбу з дапамогай нечага накшталт гарпуна. Пры гэтым, яны самыя асацыяльныя сярод малпаў, не камунікуюць міжсобку, жывуць самотнікамі.

## Традыцыі генацыду

Дарэчы, пачынаў свой шлях чалавек найхутчэй у ролі… падлажэра. Чалавекападобная малпа харчавалася мерцвячынай. Калі леў упалёўваў ды з'ядаў антылопу, да яе парэшткаў набліжаліся нашы продкі ды з дапамогай прымітыўных прыладаў здабывалі карысны для арганізма косны мозг. Ніякая іншая жывёла так не магла, а вось нашы продкі — маглі.

Бліжэйшы родзіч чалавека — шымпанзэ (супадае каля 99% генаў), другі — гарыла (97%). Ёсць два віды шымпанзэ: баноба і звычайны шымпанзэ. Першыя жывуць джунглях, харчуюцца пладамі, перасоўваюцца ад дрэва да дрэва і ў сацыяльным плане зусім не агрэсіўныя, адно аднаго не крыўдзяць, усе праблемы вырашаюць праз секс. А вось другія, якія жывуць на поўнач ад ракі Конга, у больш сухіх умовах, бліжэйшых да саваны, маюць зусім іншыя



Паляўнічы побач з сумчатым львом, апошні з якіх быў знішчаны ў 1930-х гадах

Таму і навыкі не перадаюць адно аднаму.

А продкі чалавека ў саване вялі сацыяльнае жыццё, досведам сваіх перамогаў і паразаў дзяліўся з супляменнікамі ды нашчадкамі. У выніку, чалавек апынуўся ўнікальнай жывёлай, якая можа жыць паўсюдна, бадай, апроч Антарктыды. Ён прыстасаваўся, таму — выжыў і перамог.

## Хісткая гістарычная канструкцыя

Нягледзячы на ўсе дасягненні вучоных, на сённяшні момант нельга сказаць, што мы ведаем сваё мінулае на «выдатна». Ёсць таямніцы нават у нашай гістарычнай канструкцыі, якую мы ўжо, здаецца, выбудавалі і здалі ў эксплуатацыю, перарэзаўшы чырвоную стужку на ўваходзе.

Напрыклад, выбух апрацоўкі металу. У нейкі момант, каля 7 тысяч гадоў таму, людзі навучыліся апрацоўваць метал. Прычым не толькі здабываць медзь, але амаль адразу і выплаўляць бронзу. Як гэта адбылося? Уцямна ніхто адказаць не можа. Бо трэба ж было здабыць матэрыял, аплавіць яго пры вялікай тэмпературы, зрабіць адмысловыя дадаткі кшталту мыш'яку альбо волава, дадаць вугаль… Як да гэтага дайшло? Таямніца.

Іншая таямніца — гэта будаўнічыя навыкі паўднёваамерыканскіх індзейцаў альбо будаўнікоў пірамідаў у Егіпце. Бо сённяшнія версіі навукоўцаў наконт будоўлі пірамідаў альбо мегалітычных комплексаў у Перу далёка не бездакорныя. Напрыклад, як можна пілаваць медной пілой базальт, які значна мацнейшы за граніт? Як гэтыя блокі можна класці метадам паліганальнай кладкі, калі ў выніку глыбы не толькі наверсе, але і ў глыбіні сцяны стаяць пад рознымі кутамі?.. Сёння гэта можна зрабіць адно з дапамогай кампутарных тэхналогіяў, на 3D-прынтэры ды з пластмасай. Як гэта зрабіць з каменем і долатам — невядома.

## Праметэй у Малой Азіі

Пра ўзнікненне рэлігіі, як апынулася, таксама вядома вельмі мала. У 1990-х гадах у Малой Азіі знайшлі велізарныя храмавыя комплексы з фігурамі, выявамі і г.д., якія вывучаюць дагэтуль. Раней навукоўцы былі перакананыя, што менавіта пераход да сельскай гаспадаркі дапамог цьмяным вераванням чалавека пераўтварыцца ў аформленыя культы, бо з'явіўся фактар сонца, па якім разлічваецца каляндар, неба, якое дае дождж, зямлі, якая родзіць плады і г.д. Тады толькі спатрэбіліся жрацы-метэаролагі ды іншыя «агратэхнікі» — служыцелі культу. А тут аказваецца, што храмавыя комплексы ў Малой Азіі будавалі яшчэ збіральнікі і паляўнічыя.

Больш за тое, цэнтры, дзе людзі ўпершыню пачалі засвойваць пшаніцу, знаходзяцца зусім недалёка ад гэтых комплексаў. Дык што ж было першасным — рэлігія ці сельская гаспадарка? Напрошваецца высноваа, што акурат рэлігія прывяла да таго, што людзі пачалі абрабляць зямлю, засвойваць навыкі вытворчасці. Гэта парадаксальная выснова, якой на сённяшні момант няма чаго супрацьпаставіць. Як тут не згадаеш грэчаскі міф аб Праметэі?..

Праз такія адкрыцці ў чарговы раз збіваецца не тое што храналогія, але агульная логіка прагрэсу і тэорыя пра фактары развіцця чалавека і ягоных якасцяў. Магчыма, мы яшчэ багата чаго не ведаем пра саміх сябе, а не маючы прынцыпова важных звестак пра мінулае, не можам уявіць сваёй будучыні. Калі вярнуцца да Праметэя, які нібыта даў нашым продкам аснову для росту і далейшай экспансіі, то ці з дакладнасцю так ён бачыў нашу будучыню? І ці дарэмна, паводле легенды, яго пакаралі за гэта іншыя багі?.. Пытанне застаецца адкрытым.

Працяг будзе

# Беларусы ў свеце,

## або Гісторыя з геаграфіяй



**Па гарызанталі:** 1. Сталіца адной з заходнееўрапейскіх краін, дзе 500 гадоў таму беларускі першадрукар, асветнік Францыск Скарына стварыў першае ў гісторыі беларускае выдавецтва. 6. ... Копаць. Імя мемуарыста-падарожніка, ураджэнца Піншчыны. За ўдзел у паўстанні 1794 года ён быў сасланы на Камчатку, дзе свае ўражанні аб знаходжанні там апісаў у «Дзённіку падарожжа». 8. Сталіца Казахстана, дзе адна з цэнтральных вуліц носіць імя нацыянальнага героя Казахстана Адольфа Янушкевіча, ураджэнца Нясвіжа. За ўдзел у паўстанні 1830–1831 гадоў А. Янушкевіч быў высланы ў Сібір. Падарожнічаў па казахскіх стэпах і ў сваіх дзённіках праўдзіва апісаў быт і жыццё казахаў, у той час як расійскія выданні характарызавалі казахаў дзікімі людзьмі, што не мелі сваёй гісторыі. Пахаваны ў в.Дзягільна Дзяржынскага раёна. 10. Сталіца Нарвегіі, горада, які заснаваў кароль Харальд; яго жонка Лізавета — унучка полацкай княгіні Рагнеды, а дзве іншыя ўнучкі княгіні Рагнеды — Ганна і Анастасія — былі каралевамі Францыі і Венгрыі. 11. «Мой мілы ..., мой Купала!\\ Ў агульны вір нас доля ўгнала». З паэмы Якуба Коласа «Новая зямля». Сёлета — 135 гадоў з дня нараджэння Якуба Коласа і Янкі Купалы. 12. Спецыяліст у галіне моваэнаўства. Ім быў падарожнік, паліглот, першы консул Расіі і ў Японіі, ураджэнец Хойнікшчыны Іосіф Гашкевіч. Яго імя носіць заліў у Паўночнай Карэі, а ў беларускім Астраўцы і ў японскім Хакадатэ яму ўстаноўлены помнікі. 15. ... Фёдараў (Хведаровіч). Імя кнігавыдаўца — асветніка XVI ст., заснавальніка кнігадрукавання ў Расіі і на Украіне; даследчыкі лічаць, што ён паходзіць з беларускага шляхецкага роду Рагозаў. 16. Старажытны металічны воінскі галаўны ўбор. 17. ... салдаты — не войска, ... дубы — не дуброва (прыказка). 18. Герой старажытнагрэчаскай міфалогіі, першы «касманаўт», які імкнуўся даляцець да Сонца. 19. Краіна ў Паўднёвай Амерыцы, дзе Ігнат Дамейка, вучоны даследчык, геолаг, ураджэнец сённяшняга Карэліцкага раёна, лічыцца народным героем. Яго імя носяць малая планета, ланцуг гор у Андах, порт, універсітэт у сталіцы краіны, дзе яму ўстаноўлены помнік. Ігнат Дамейка, удзельнік паўстання 1830–1831 гадоў, аўтар мемуараў «Мае падарожжы» і падручніка «Мінералогія» і інш. 20. Натхненне прыходзіць у ... працы (прыказка). 22. Астраўная краіна ў Карыбскім моры. 23. ... ралля — два сярпы, дзве раллі — тры сярпы (прыказка). 26. Надзяленне геранчымі рысамі каго-небудзь або чаго-небудзь. 28. Птушка з неразвітымі крыламі, якая водзіцца ў Новай Зеландыі. 29. Тое, што і штабель. 31. ... Тадэвуш Банавентура Касцюшка. Адно з імёнаў кіраўніка нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 года, які называў сябе ліцвінам (беларусам). Яго імя носіць вышэйшая гара ў Аўстраліі, горад у ЗША і акруга ў штаце Індыяна, востраў на Алясцы. Сёлета, у кастрычніку, спаўняецца 200 гадоў з дня яго смерці, камісія ЮНЭСКА абвясціла 2017-ы годам памяці Касцюшкі. 32. Сталіца Перу, краіны, дзе праводзіў свае даследаванні фауны і флоры першы беларускі заолаг, географ, ураджэнец Ігуменшчыны (сённяшняй Чэрвеньшчыны) Канстанцін Ельскі. Яго імем названыя некаторыя адкрытыя ім расліны і жывёлы. 33. Астравы ў Ціхім акіяне, дзе ў 1901–1902 гадах першым прэзідэнтам быў вучоны, прыродазнавец, урач, ураджэнец Магілёва Мікалай Судзілоўскі.

**Па вертыкалі:** 2. Злак з белым зернем. 3. Адзінка вагі. 4. Буйны почырк старажытных рукапісаў. 5. Тое, што і бурштын. 7. Хітры, як ліса, а баязлівы, як ...(прыказка). 9. Імя Семяновіча, першага ў свеце вынаходніка шматступеннай ракеты, ураджэнца Віцебшчыны; такое ж імя ў Чарноўскага, аднаго з першых вынаходнікаў падводнага карабля, ураджэнца Ігуменшчыны (Чэрвеньшчыны). 10. Піліп ... . Прозвішча аўтара самай першай украінскай канстытуцыі, ураджэнца в. Касута сённяшняга Вілейскага раёна. У Вілейцы, Кіеве і Львове ёсць вуліцы яго імя. 13. Тое, што і пахвала. 14. ... Галынскі. Імя падарожніка, урача з Крычава, які першы прапанаваў ідэю будаўніцтва Панамскага канала. 19. Калыма, ... , Прыбайкалле. Рэгіёны Усходняй Сібіры, якія даследаваў Іван Чэрскі, геолаг, беларус, удзельнік паўстання 1863–1864 гадоў, ураджэнец в.Свольна, што на Віцебшчыне. Яго імя носяць шматлікія геаграфічныя аб’екты Усходняй Сібіры, а таксама вуліцы ў гарадах Беларусі, Расіі, Літве. 21. ... Кіт. Імя буйнога амерыканскага вучонага ў галіне астранаўтыкі, доўгажыхара (сёлета яму споўнілася 107 гадоў), бацькі якога — ураджэнцы сённяшняга Карэліцкага раёна. У Мінску створана аб’яднанне «Сябрына ... Кіта». 24. ... Місуна. Імя першай беларускай жанчыны-геолага. 25. ... Алфёраў. Імя буйнога расійскага вучонага — фізіка, лаўрэата Нобелеўскай прэміі (2000 г.), ураджэнца Віцебшчыны (Чашнікі). 26. ... Апалінэр. Імя французскага паэта-сюррэаліста, продкі якога (па лініі маці) — графы Кастравіцкія, ураджэнцы былога Дзісненскага павета. 27. Не пахмурна, а ... . 30. ... Шміт. Імя выдатнага савецкага географа, астранома, матэматыка, ураджэнца Магілёва. Імем яго названы востраў у Карскім моры, падлёдная раўніна ў Антарктыдзе, астэроід, кратэр на Месяцы, малая планета, вуліцы ў многіх гарадах СНД.

**Склаў Лявон Целеш, г. Дзяржынск**



**Адказы на крыжаванку «Жыў беларус і будзе жыць» (НЧ, №27 ад 14 ліпеня):**

**Па гарызанталі:** 1. «Сваякі». 4. Пяскі. 7. Эрас. 12. Ют. 13. Асада. 14. Маладая. 16. Толк. 17. Вушка. 19. Рэмез. 20. Мова. 22. Беларус. 24. Зелле. 26. Іл. 28. Ногі. 29. Адбор. 30. Мацыён.

**Па вертыкалі:** 1. Су. 2. Афтальмолаг. 3. Край. 5. Яна. 6. Кум. 8. Радашковічы. 9. Сняданак. 10. Ра. 11. Слова. 15. Старобін. 18. Азарт. 21. Лета. 23. Сад. 24. Зло. 25. Ля. 27. Ян.

Новы час

Агульнапалітычная штотыднёвая газета

novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №753

Падпісана да друку 11.08.2017. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.